◂ № 7 (376) ◂ 21 лютага ◂ 2014 г.
www.novychas.info

# Новы Час



СВЯТЛАНА АЛЕКСІЕВІЧ

Стар. 6

**ХТО РАСКОЛВАЕ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСТВА?**

Выбары ў Беларусі дазваляюць аддзяляць «нягоднікаў», якія імкнуцца прыбраць да сваіх рук маладую беларускую дзяржаву, ад лаяльнай часткі насельніцтва

Стар. 4

**УКРАІНА: ВАЙНА ГРАМАДЗЯНСКАЯ**

Чым больш абвастраецца ўкраінскі палітычны крызіс, тым больш ва ўсіх праяў эмоцый (у тым ліку, на жаль, і ў палітолагаў). Адпаведна, карцінка, якую яны прапануюць, атрымліваецца часцей за ўсё чорна-белай

Стар. 11

**РЫГОР БАРАДУЛІН: «ЗАРАЗ ГАДЫ — ЯК ВЕРАБ'І З-ПАД СТРАХІ**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**«НІМФАМАНКА»: ТРЫЕРАЎСКІ МАНІФЕСТ ЗБОРКІ**

Артыкул Андрэя Расінскага

З НАГОДЫ




# СПОРТ ЯК ХВАРОБА

Сяргей ПУЛЬША

**Як толькі Аляксандр Лукашэнка перастаў тузаць спартоўцаў, піць з імі гарбату і даваць карысныя парады, і ўвогуле з'ехаў з Сочы, нашым паваліла. Сочынская Алімпіяда — рэкордна шчаслівая для Беларусі. Але і гэтае шчасце абвастрыла хранічныя балячкі нашага грамадства.**

Грамадства, прынамсі тое, што сядзіць у інтэрнэце, аказалася больш расколатым, чым сабе гэта ўяўлялі нават сацыёлагі. На фоне неверагодна ўдалай Алімпіяды абвастрылася «праблема заўзятараў». Адны лічаць, што спартоўцы прынеслі гонар і вядомасць краіне ў цэлым — трэба святкаваць іх перамогі як свае. Іншыя лічаць непрымальным радавацца поспехам у спорце, калі гэтыя поспехі будуць скарыстаныя афіцыйнай прапагандай, і ў той час, калі ў краіне дагэтуль ёсць палітвязні і гэтак далей. Карацей, ізноў спрэчка — ці па-за палітыкай спорт?

Канешне, можна радавацца «тройчы залатой» Дар'і Домрачавай, але на яе поспехах будзе будавацца і прапаганда «самай спартовай сінявокай» не толькі ў Беларусі, але і ў свеце. Безумоўна, поспех зімовых гульняў у Сочы будзе скарыстаны і для «раскруткі» майскага Чэмпіяната свету па хакеі ў Мінску. Нездарма ж кіраўнік дзяржавы ўжо ўзнагародзіў Дар'ю ордэнам «Герой Беларусі». І гэта нягледзячы на тое, што пытанне вызвалення палітвязняў апазіцыі хацелася б увязаць з чэмпіянатам па хакеі, — прынамсі, спадзявацца, што да пачатку гэтага спаборніцтва хтонебудзь апынецца на волі.

Дыскусія будзе ўзмацняцца, асабліва на фоне таго, што ў гэты ж час шэраг прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, палітычных аб'яднанняў і грамадзянскіх ініцыятыў Беларусі заявілі пра старт міжнароднай кампаніі «FAIR PLAY — сумленная гульня». Яе мэта — вызваленне ўсіх беларускіх палітвязняў. З гэтай мэтай хакеістам прапануецца агучыць сваю грамадзянскую пазіцыю ў справе палітвязняў, заўзятарам і проста неабыякавым людзям — пікетаваць беларускія пасольствы з патрабаваннем вызваліць палітзняволеных і гэтак далей. Найбольш радыкальнай выглядае тэза пра тое, што «калі да пачатку хакейнага турніру палітвязні не будуць вызваленыя, мы заклікаем спартсменаў, нацыянальныя хакейныя федэрацыі праявіць салідарнасць і адмовіцца ад паездкі ў Мінск і ўдзелу ў чэмпіянаце свету па хакеі».

Так што спорт палітызуецца з абодвух бакоў беларускіх барыкадаў. І замест салідарнасці і радасці за «нашых» ён яшчэ больш расколвае грамадства ў палітычным плане.

Узмацнілася і дыскусія пра тое, ці маральна спартоўцу атрымліваць узнагароды ад «таталітарнага дыктатара». Збольшага, гэтую спрэчку справакаваў сам Аляксандр Рыгоравіч — тым, якім чынам ён паведаміў Домрачавай пра ўзнагароджанне яе «Героем Беларусі». У віншавальнай тэлеграме ён звяртаўся да яе «Даша» і на «ты». Канешне, пасля таго, як яны пілі разам гарбату і нешта яшчэ, Лукашэнка, можа, і мае права лічыць Дар'ю за сябра. Аднак далей сказана: «Ад усёй душы віншуем цябе з прысваеннем вышэйшай узнагароды Радзімы — звання «Герой Беларусі».

Тройчы «залатая» алімпійская чэмпіёнка называецца на «ты», а Аляксандр Лукашэнка — «мы», у множным ліку. Шмат хто з-за гэтага ад імя Домрачавай пакрыўдзіўся.

Але больш за ўсё над «рэкордамі Алімпіяды» кпяць тыя, хто заклапочаны эканамічным становішчам «крыштальнага сасуда». Нагадаем, што Беларусь па прэміяльных за медаль займае трэцюю пазіцыю ў спісе — вышэй за нас прэміяльныя толькі ў Казахстане і Азербайджане. За «золата» спартоўцам належаць 150 тысяч долараў, за срэбра — 100 тысяч і за бронзу — 50 тысяч долараў.

Такім чынам, тройчы «залата» Домрачавай краіне абыдзецца ў 450 тысяч, «золата» фрыстайлістаў Алы Цупер і Антона Кушніра — па 150 тысяч долараў, «бронза» Наталлі Скардзінай — яшчэ ў 50 тысяч зялёных. Агулам 800 тысяч, не лічачы таго, што за ўдалы выступ гэтыя спартоўцы маюць права на прэзідэнцкую стыпендыю ў памеры 125 тарыфных ставак першага разраду на месяц на чатыры гады. Праўда, штогод давядзецца праходзіць перагляд стыпендыі, і за гэты час спартовец можа атрымаць 160 тысяч долараў (пры захаванні цяперашняга памеру стыпендыі).

Карацей, беларускаму бюджэту нашы спартыўныя перамогі абыдуцца недзе ў мільён долараў.

Праўда, той жа Антон Кушнір раней казаў «Камсамольскай праўдзе ў Беларусі», што грошы за медаль, калі такая ўжо ёсць, пачнуць пералічваць толькі з ліпеня будучага года, але ўжо зараз інтэрнэт поўны малюнкамі з выявамі Аляксандра Рыгоравіча і Уладзіміра Пуціна, дзе беларускі кіраўнік просіць у свайго калегі «крэдыт на Дашу». Таксама ў сацыяльных сетках жартуюць: «Калі Домрачава пагодзіцца ўзяць прэміяльныя трактарамі МТЗ, то атрымае двойчы Героя Беларусі і пасаду прэм'ер-міністра».

Некаторыя хвалююцца, што перамогі Беларусі на спаборніцтвах такога кшталту могуць прабіць дзірку і ў без таго слабым беларускім бюджэце. Канешне, гэта — з галіны фантастыкі, мільён долараў для краіны — сума мізэрная. Але тым не менш, ход думак на гэты конт паказальны. «Беларускі цуд», па меркаванні многіх, настолькі аслаблены, што зваліць яго можна адным толькі штуршком. І гэтым штуршком можа стаць любая выплата валюты «па-за праграмай». Беларуская эканоміка нават у вачах сваіх жа грамадзянаў выглядае нягеглай, слабой і бездапаможнай.

Пра праблемы спартоўцаў, пра ўмовы іх падрыхтоўкі і ўвогуле пра праблемы беларускага спорту, якія набылі ўвагу дзякуючы нашым перамогам, увогуле казаць залішне. Толькі адзін прыклад прыводзіць блогер Віктар Малішэўскі: 1989 — такі год выпуску «самай лепшай вінтоўкі» для біятлону ў мінскай дзіцяча-юнацкай школе алімпійскага рэзерву №1, якая атрымае «спонсарскую дапамогу» ад імя Дар'і Домрачавай.

Карацей, Алімпіяда ў чарговы раз выявіла «сімптомы хваробы» не толькі беларускага спорту. Гэта і эканоміка, і палітыка. А галоўнае — поўная няздольнасць беларускага грамадства радавацца «за сваіх» як за сябе. Гэтаму мы яшчэ не навучыліся.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. НЕЗАЛЕЖНЫЯ ЖУРНАЛІСТЫ ПАД УВАГАЙ ЧЫНОЎНІКАЎ

**Старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пётр Руднік загадаў «сцерці ў парашок пісак» з незалежнай газеты «НАШ Магілёў».**

Пятра Рудніка раззлаваў артыкул, які размешчаны на сайце газеты «НАШ Магілёў», пра першага намесніка старшыні аблвыканкама Аляксея Кісялёва «Магілёўскі чыноўнік не пускаў на прыём жанчыну з дзіцем».

Як паведаміла «крыніца» з аблвыканкама, Пётр Руднік так моцна абураўся і крычаў з гэтай нагоды на пасяджэнні аблвыканкама, што загадаў начальніку абласнога ўпраўлення ўнутраных спраў Фёдару Балейку (не для пратаколу) любымі спосабамі «сцерці ў парашок пісак» і «НАШ Магілёў».

Галоўны рэдактар газеты «НАШ Магілёў» Ігар Барысаў лічыць, што трэба не змагацца з незалежнай прэсай, а павышаць узровень культуры і выхаванасці мясцовых чыноўнікаў.

Стала вядома, што ўчастковы зацікавіўся незалежным журналістам Алесем Бураковым (старэйшым). Міліцыянт тэлефанаваў яго суседцы і браў у яе на яго характарыстыку, распытваў пра тое, чым займаецца Буракоў.

«Я высветліў, хто мой участковы, і паспрабаваў з ім звязацца. Мне сказалі, што гэта Аляксандр Уласенка, аднак сёння ён ужо скончыў працу, а заўтра не працуе. Па мабільнаму тэлефону адказвае яго сваячка, якая кажа, што цяпер гэта яе нумар. Калі не пацвердзіцца, што гэта званіў участковы, то тады маёй суседцы маглі званіць толькі супрацоўнікі КДБ», — кажа Алесь Буракоў.

Буракоў мяркуе, што такая ўвага да яго асобы з'яўляецца прафілактычнай напярэдадні не выбараў у мясцовыя Саветы дэпутатаў, а прэзідэнцкіх, да якіх засталося не так шмат часу.

### ЖЛОБІН: БЫЎ У МФ? ДА ПСІХІЯТРА

**Прызыўніка Аляксандра Латышава ваенкамат накіраваў прайсці абследаванне ў Гомельскім абласным псіхіятрычным шпіталі.**

Раённы псіхіятр-псіхолаг даў папярэдняе заключэнне, у якім напісана, што «скаргі не выказвае, накіроўваецца ў сувязі з удзелам у партыі «Малады фронт» (раней)».

Папярэдні дыягназ, які паставіў раённы псіхіятр, — «расстройства асобы». Пасля абследавання ў абласным псіхіятрычным шпіталі, ніякіх адхіленняў лекары ў Аляксандра Латышава не знайшлі.

### ОРША. НЕ СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З НЕЗАЛЕЖНЫМ САЙТАМ

**Сайт www.orshatut.by існуе больш за тры гады, але нядаўна аднаму з рэкламадаўцаў параілі адмовіцца ад супрацоўніцтва.**

«Да мяне звярнуўся чалавек і сказаў, што адмаўляецца ад рэкламы на сайце. Гэта было дзіўна, бо наша супрацоўніцтва доўжылася не адзін месяц. І чалавек патлумачыў, што яго папярэдзілі з КДБ, маўляў, сайт «не зусім той», і каб не было непрыемнасцяў, трэба прыбраць адтуль рэкламу. Я, канешне, пагадзіўся. Але ў такой форме незадавальнення дзейнасцю сайта яшчэ ніхто не выказваў», — распавёў Заснавальнік сайта Віктар Андрэеў.

З пэўнымі перашкодамі супрацоўнікам сайту даводзілася сутыкацца і раней. «Але каб у такой катэгарычнай форме ды са спасылкай на КДБ мне паведамлялі, што сайт нейкі шкодны ці небяспечны, — такога яшчэ не бывала. Верагодна, гэта спроба ціску перад выбарамі, бо наш рэсурс незалежны, і адным з апошніх матэрыялаў было паведамленне пра пікет кампаніі «Гавары праўду» ў Оршы. А магчыма, што проста камусьці не падабаецца, што мы змяшчаем крытычныя матэрыялы па гарадскіх праблемах. Так ці інакш, але я хачу, каб нашы чытачы ведалі пра ціск на сайт, і таму я напісаў да іх адкрыты ліст», — гаворыць Віктар Андрэеў.

### БРЭСТ. ЗАМЕСТ РАМОНТУ — АДПІСКІ

**У Міністэрства ЖКГ накіравана скарга жыхароў вуліцы Сонечнай наконт нездавальняючага стану тратуараў, дарожнага пакрыцця, адсутнасці ліўневай сістэмы.**

Жыхары неаднаразова звярталіся да мясцовых уладаў з гэтымі набалелымі пытаннямі, аднак атрымлівалі адказы, што ва ўмовах скарачэння бюджэтнага фінансавання ажыццявіць мерапрыемствы па праектаванні і будаўніцтву тратуараў, дарожнага пакрыцця і сістэмы «ліўнёўкі» не ўяўляецца магчымым. Адначасова ў адказах гаворка ішла пра тое, што выкананне патрэбных работ у мікраарэне «будзе ўлічваецца пры фармаванні праграмы добраўпарадкавання на наступныя гады», але не ўзгадваліся нават прыблізныя тэрміны выканання работ.

Як паведаміў актывіст кампаніі «Гавары праўду» Ігар Маслоўскі, жыхары Сонечнай лічаць рэакцыю брэсцкіх уладаў адпіскай, бо па сутнасці калектыўны зварот не быў разгледжаны. «Таму скаргай у Міністэрства ЖКГ актывісты кампаніі, разам з жыхарамі вуліцы Сонечнай, хочуць дамагчыся, каб узгаданыя факты гаротнага стану гэтай вуліцы знайшлі сваё пацвярджэнне, а міністэрства выдала прадпісанне брэсцкім выканаўчым органам аб прыняцці мер па выпраўленні сітуацыі», — кажа Ігар Маслоўскі.

**Матэрыялы падрыхтаваныя паводле сайта spring96.org**

КРУГЛЫ СТОЛ

## КУРАПАТЫ ПАД АХОВУ!

Марат ГАРАВЫ

**Дабівацца захавання ахоўнай зоны і статусу Курапатаў — да такой высновы прыйшлі ўдзельнікі круглага стала «Курапаты: праблемы статусу і ахоўных зонаў», што адбыўся вечарам 18 лютага ў Мінску.**

На пасяджэнні адзначалася, што галоўную ролю ў захаванні асяроддзя гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 30–40-х гадоў ХХ стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты» адыгрывае менавіта ахоўная зона. Межы гэтай зоны былі ўведзены ў прававое поле пастановай Міністэрства культуры толькі 12 мая 2004 года.

Але і гэта не спыніла юрыдычных асоб і забудоўшчыкаў ад спакусы забудаваць рознымі аб'ектамі прылеглую да мемарыялу тэрыторыю паміж МКАД і дарогай Заслаўе — Калодзішчы.

У ахоўнай зоне Курапатаў з іх заходняга боку незаконна пабудаваны чатыры домікі рэстаранна-забаўляльнага комплексу, а рашэнне нарады з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства культуры, Мінскага аблвыканкама, Генеральнай пракуратуры, заказчыка і іншых зацікаўленых структураў ад 27 снежня 2012 года аб зносе вышэйназваных домікаў да гэтага часу не выканана. Забудоўшчыкі пасёлку «Сонечны», узведзенага за дарогаю Заслаўе — Калодзішчы, патрабуюць дапусціць іх на тэрыторыю ахоўнай зоны Курапатаў з іх паўночнага боку.

Але найбольшую пагрозу для мемарыялу ўяўляюць планы будаўніцтва Міжнароднага выставачнага цэнтру на полі паміж Курапатамі і Экспабелам, частка якога ўваходзіць у ахоўную зону помніка. Грамадскасць лічыць недапушчальнымі любыя праектна-вышукальніцкія працы на тэрыторыі ахоўнай зоны Курапатаў, паколькі такія працы прывядуць да знішчэння асяроддзя помніка з яго ўсходняга боку, у тым ліку і «Дарогі смерці».

На пасяджэнні таксама адзначалася, што апошнім часам мусіруецца пытанне аб змене юрыдычнага статусу Курапатаў як месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў, і наданні яму статусу мемарыяльных могілак ці мемарыяльнага парку, якія, дарэчы, не прадугледжаны айчынным заканадаўствам.

Вядомы беларускі праваабаронца Гары Паганяйла прапанаваў менавіта праз суд, законна бараніць ахоўную зону Курапатаў. На ягонае меркаванне, сярод заяўнікаў зыску ў суд могуць выступіць як адпаведныя грамадскія аб'яднанні, так і асобныя грамадзяне.

Удзельнікі пасяджэння падтрымалі і прапанову Вінцука Вячоркі сканцэнтраваць увагу грамадства і незалежнай прэсы на сітуацыі вакол усходняй мяжы ахоўнай зоны Курапатаў, на неабходнасць накіраваць адпаведны ліст у Беларускую гандлёва-прамысловую палату.

ЗВАРОТ

## ПАВЫСІЦЬ ЗАРОБКІ

**40 грамадзян з Баранавіч звярнуліся да кіраўніка ўрада Міхаіла Мясніковіча з просьбай ініцыяваць прыняцце закона РБ аб падвышэнні мінімальнага заробку.**

Пра гэта паведаміў кіраўнік Баранавіцкай суполкі прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці Рыгор Грык:

«Каб паводле гэтага закона наймальнік быў бы абавязаны плаціць працаўніку мінімум 4 мільёны з улікам індэксацыі цэн і даходу працоўных. Я лічу, што за 4 мільёны чалавек можа яшчэ неяк выжыць, а за мінімальны заробак у 1 мільён 600 тысяч гэта проста немагчыма», — падкрэслівае Грык.

Па словах Рыгора Грыка, гэта не першая спроба жыхароў Баранавіч звярнуць увагу кіраўнікоў і дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў на нізкія пенсіі і заробкі, за якія немагчыма выжыць. Але атрымліваюць адказы, што больш плаціць немагчыма не толькі па эканамічных прычынах, а з-за перасцярогі развіць утрыманскія настроі.

**Паводле Беларускага Радыё Рацыя**

ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## ВЫРАТАВАЦЬ ПРЫТУЛАК ШЧАДРОВА!

Сяргей ПУЛЬША

**Год таму прытулак для бяздомных Аляксея Шчадрова ў вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці ўжо быў пад пагрозай. Тады сітуацыю разрулілі. Але сёння прытулак зноў спрабуюць ліквідаваць.**

Пра гэта журналістам распавёў сустаршыня аргкамітэту па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Павал Севярынец. Па ідэі, распавядаць пра ўсё павінен быў сам Аляксей Шчадроў. Але на заяўленую з ім прэс-канферэнцыю ў Мінск ён не прыехаў. Адзін з ягоных падапечных цяжка захварэў.

Зараз у прытулку Шчадрова — 10 асобаў. Ва ўсёй вёсцы Аляксандраўка мясцовыя жыхары да пацыентаў былога доктара, канешне, ставяцца з насцярожанасцю, але не да таго, каб выганяць беспрытульных зноў на вуліцу.

«Прытулак не падабаецца, перш за ўсё, мясцовым уладам і Шчучынскай міліцыі. Якраз гэтыя дзве структуры, пры падтрымцы мясцовых уладаў, пачалі гэты прытулак для бяздомных выжываць», — распавёў Севярынец.

Раптоўна, на пачатку лютага гэтага года да Шчадрова прыехалі прадстаўнікі мясцовай улады і міліцыі і загадалі: ён мусіць здаць рэгістрацыйныя дакументы недзяржаўнай арганізацыі. Фармальнай прычэпкай было тое, што нейкія пабудовы прытулку не адпавядаюць санітарным нормам. «Калодзеж там павінен быць за 15 метраў ад гаспадарчых пабудоў, блізка ад дома хлеў, пакой павінен быць большы, бо ў ім жывуць аж пяць чалавек і гэтак далей», — адзначае Севярынец. Прычым, тэрміну для «выпраўлення недахопаў» не было дадзена ўвогуле.

Ціск быў вялікі, да Шчадрова міліцэйскія і іншыя чыноўнікі прыязджалі штодня, пагражаючы яму самымі рознымі карамі. У выніку Шчадроў быў вымушаны сабраць дакументы на рэгістрацыю аб'яднання і здаць іх у мясцовы сельсавет. І зараз прытулак зноў — без рэгістрацыі.

Чаму робіцца такі абсурд? Здаецца, улады павінны былі б усяляк спрыяць Шчадрову. Па меркаванні Севярынца, хутчэй за ўсё, мясцовыя дэпутаты сельсаветаў не могуць пахваліцца сваёй дзейнасцю і жудасна зайздросцяць Шчадрову, які паспяхова працуе там, дзе працаваць павінны яны. А таму выйсце гэтай зайздрасці адно — «прышчаміць хвост» Шчадрову, каб не быў такі разумны і не псаваў бы імідж улады. А тое раптам хто запытае: «Вось тут Шчадроў дзясяткі чалавек корміць, поіць і абагравае, а што зрабілі вы?» І што адказаць? Каб такіх пытанняў не было, і трэба «ліквідаваць Шчадрова».

Спадзявацца можна толькі на розгалас ды на саміх сябе. Таму, па словах Севярынца, Шчадроў разам з юрыстамі паспрабуе ў другі раз зарэгістраваць новую дабрачынную ўстанову. «БХД ж абвяшчае збор сродкаў і ахвяраванняў для гэтага прытулку: лекі, адзенне, пасцельная бялізна. Першую партыю такіх рэчаў у прытулак мы ўжо завезлі, ужо ёсць другая партыя. Калі цяжка гэта перадаць наўпрост у вёску Аляксандраўка, тады мы зможам усё гэта завезці», — сказаў Севярынец.

Па-другое, БХД распрацавала зварот да кіраўніцтва Касцёлу, пачынаючы ад Папы рымскага Францішка і заканчваючы дапаможным біскупам Гродзенскай дыяцэзіі Юзафам Станеўскім, з просьбай узяць Дом Марыі Міласэрнасці пад сваю апеку.

«Мы спадзяемся, што гэтая сітуацыя вырашыцца, таму што куды дзець бяздомных людзей пасярод зімы, я, напрыклад, не ведаю», — неяк разгублена сказаў Севярынец.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# УЗГАДАЙЦЕ СЛОВА «ДЭФІЦЫТ»

*Сяргей САЛАЎЁЎ*

**Кажуць, што СССР развалíўся не з-за галоснасці, путчыстаў і Гарбачова, а таму, што ў ім не было джынсаў, нармальных швэдараў і пральнага парашку. Нашае кіраўніцтва, пабачыўшы эканамічныя паказчыкі і працу эканомікі ў цэлым, вырашыла: «Гуляць, дык гуляць!».**




Горш усё роўна не будзе, а таму можна звыкла пайсці па савецкім шляху. Балазе, Беларусь не такая вялікая, каб развалíцца, а калі рабіць ужо няма чаго, можна рабіць любыя глупствы. Што і паказала нарада ў Аляксандра Лукашэнкі пад назвай «Аб некаторых пытаннях рэалізацыі тавараў індывідуальнымі прадпрымальнікамі і іншымі фізічнымі асобамі».

У нармальнай краіне такой нарады ўвогуле не павінна было б быць. Прадпрымальнікі самі закупляюць ці ствараюць прадукцыю, самі яе прадаюць, самі аплачваюць арэнду, самі наймаюць працаўнікоў, выконваюць санітарныя нормы, плацяць дзяржаве падатак — што яшчэ ад іх трэба? А трэба ад іх тое, каб яны перасталі працаваць увогуле.

Галоўным дакладчыкам быў, канешне, Пётр Пракаповіч. Падаецца, што стваральніку крызісу 2011 года зараз даручылі агучваць усе непапулярныя захады. Ён нагадаў, што з 1 ліпеня 2014 года ўстанаўліваецца абавязак дакументальна пацвярджаць набыццё рэалізуемай прадпрымальнікамі прадукцыі. Прыняцце ўказа дасць магчымасць выканаць тэхрэгламент Мытнага саюза, патрабаванні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб абароне правоў спажыўцоў» і стварыць умовы для павелічэння аб'ёмаў продажу тавараў айчыннай вытворчасці.

Тое, што ні на адным рынку, адкуль беларусы прывозяць свой тавар, такіх дакументаў не выдаецца, таму што іх проста не існуе, Пракаповіча хваліце мала. Ён жа не прадпрымальнік.

«Для прадастаўлення магчымасцяў індывідуальным прадпрымальнікам легальна набываць тавары на тэрыторыі Беларусі вызначаны пералік аптовых арганізацый, якія забяспечваюць пастаўку тавараў айчыннай і замежнай вытворчасці», — сказаў віцэ-прэм'ер.

Пэўна, размова ідзе пра так званыя «лагістычныя аптовыя базы», якія ўрад даўно ўжо павінен быў стварыць для прадпрымальнікаў. Але не стварыў.

«Так, якія праблемы? Я некалькі гадоў таму даручаў стварыць у Беларусі «Чаркізаўскі рынак», каб нашы прадпрымальнікі не ездзілі ў Маскву ці яшчэ кудысьці. Дзе паглядзець гэты рынак?» — задаў пытанне Аляксандр Лукашэнка. «Пакуль такога рынку няма», — канстатаваў Пётр Пракаповіч. «Чаму вы не ўзялі з Мясніковічам і не стварылі падобнае прадпрыемства?» — спытаў кіраўнік дзяржавы.

Пракаповіч круціўся, як вужака на патэльні, і адказаў, што праект «плануецца рэалізаваць» у пасёлку Балбасава Аршанскага раёна, і неўзабаве «будуць унесены адпаведныя прапановы». Адначасова «рэалізуюцца планы» па стварэнні ў Беларусі сеткі іншых лагістычных цэнтраў.

Карацей, што-што, а планы нараджаць наш урад навучыўся. Але з рэалізацыяй гэтых планаў і прапаноў вялікія праблемы.

Разам з тым Пётр Пракаповіч заўважыў, што ў прадпрымальніцкім асяродку няма вялікай колькасці жадаючых гэтым займацца, бо «усіх задавальняе цяперашняя сістэма».

«Задавальняе таму, што ў іх няма альтэрнатывы. Яны як ездзілі ў Маскву, так і ездзяць. Яны ўжо прызвычаіліся да гэтага шляху. Гэта натуральна: чалавек прывыкае, напрацоўвае пэўныя схемы і па іх працуе. Іншы схемы вы не прапанавалі. Па-другое, вы не выканалі маё даручэнне», — цалкам слушна заўважыў Аляксандр Рыгоравіч.

«Мы ў цяперашні час укладваем у нашу лёгкую прамысловасць каля 300 мільёнаў долараў. Натуральна, ёй вельмі складана канкураваць з гэтым шэрым імпартам», — зусім недарэчна заўважыў прэм'ер-міністр Міхаіл Мясніковіч.

Цікава: у лёгкую прамысловасць укладваюцца шалёныя грошы, імпарт у нас, што прызнаў урад, нашмат даражэйшы, чым у суседніх краінах, і тым не менш — «натуральна» — нашай прадукцыі складана з ім канкураваць? Гэта ўжо нейкі «зрух па фазе». Можа, мы не тое ствараем? Можа, мы зноў на прадпрыемствах лёгкай прамысловасці ствараем ракеты, а не джынсы?

Карацей, дагаварыліся да таго, што з 1 ліпеня 2014 года імпарт тавараў (у лепшым выпадку, легпрама, а ў горшым — увесь спажывецкі імпарт) будзе ажыццяўляцца праз спецыяльна створаныя ў кожнай вобласці дзяржаўныя аптовыя базы, а прадпрымальнікі, якія гандлююць гэтым таварам, ператвараюцца ў прадаўцоў выязных крам. Пры гэтым, імпартавацца будзе толькі той тавар, які не вырабляецца ў Беларусі.

**Дагаварыліся да таго, што з 1 ліпеня 2014 года імпарт тавараў будзе ажыццяўляцца праз спецыяльна створаныя дзяржаўныя аптовыя базы, а прадпрымальнікі ператвараюцца ў прадаўцоў выязных крам**

У сувязі з гэтым ёсць два пытанні. Пытанне першае: ці будуць створаныя гэтыя аптовыя базы? Яшчэ ўлетку, калі нашы ІПшнікі пратэставалі супраць увядзення дакументаў тэхрэгламента Мытнага саюза, яны казалі, што не супраць набываць тавар на аптовых базах у Беларусі. Але дзе тыя базы? Нідзе. Вось у гэтым праблема.

І пытанне другое: хто будзе вызначаць асартымент на «дзяржаўных аптовых базах»? Улічваючы, што «імпартавацца будзе толькі той тавар, які не вырабляецца ў Беларусі», ці значыць гэта, што мы будзем пазбаўленыя польскага альбо італьянскага абутку, адзення сусветных брэндаў, пральны парашок у нас будзе толькі «Мара», а касметыка — выключна «Беліта-Вітэкс»?

Засталося толькі закрыць выезд з краіны (такія прапановы ўжо гучалі) і поўнасцю забараніць у краіне валютна-абменныя аперацыі. Каб нашы грамадзяне не рваліся за мяжу у пошуках больш танных і больш якасных тавараў, каб не прывозілі іх сваім родзічам і сябрам, пакідаючы валюту замежнікам. Памятаеце, як гэта было напачатку 90-х гадоў, калі ездзілі гандляваць у Польшчу, прывозячы адтуль модныя кітайскія джынсы «Mawine», якія ў народзе мелі назву «Мальвіны»?

Да чаго гэта можа прывесці, зразумела ўсім: да СССРаўскіх часоў татальнага дэфіцыту, «блату» ў гандлі і гэтак далей. Дарэчы, ва ўсім свеце тады тавар можна было «набыць» альбо «скрасці». А ў СССР яшчэ існавала такая дэфініцыя, як «дастаў». «Дзе ўзяў? Дастаў!» — казалі ўладальнікі «дэфіцыту». І слова «дэфіцыт» маладзейшаму пакаленню таксама прыйдзецца вывучыць.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### ДЫРК ШУБЕЛЬ



Кіраўнік дэпартамента Усходняга партнёрства Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў Дырк Шубель у інтэрв'ю інтэрнэт-выданню Naviny.by паведаміў, што Еўропа запускае ў дачыненні да Беларусі «Часовую фазу» супрацоўніцтва. «Гэта значыць, што мы хочам сумесна прааналізаваць, як мы можам разам працаваць над мадэрнізацыяй Беларусі», — кажа Шубель.

Па яго ных словах, яго візіт быў накіраваны на падрыхтоўку візіту Гунара Віганда (дырэктар дэпартамента Расіі, Усходняга партнёрства, Цэнтральнай Азіі, рэгіянальнага супрацоўніцтва і АБСЕ Еўрапейскай службы знешніх дзеянняў) і Жан-Люка Дэмарці (генеральнага дырэктара Еўракамісіі па пытаннях гандлю) у канцы сакавіка. Менавіта тады будзе запушчаны працэс «Часовай фазы». «Ідэя ў тым, каб пачаць працаваць у галіне інвестыцый і гандлю, якія цяпер маюць асаблівую значнасць для Беларусі, але таксама і для Еўрасаюза», — адзначыў Шубель.

Гэта значыць, што Еўропа гатовая дапамагчы Беларусі грашыма і інвестыцыямі. Праўда, на якіх умовах і ў якіх памерах, а таксама, як гэта зрабіць у поўнасцю не прыдатных для інвестыцыяў эканамічных умовах Беларусі, ён не ўдакладніў.

Першы афіцыйны раўнд перамоваў аб спрашчэнні візавага рэжыму Еўрасаюза і Беларусі пройдзе ў сакавіку ў Мінску. «Спадзяюся, мы будзем прасоўвацца хутка, але яшчэ рана казаць, калі гэтыя перамовы скончацца», — тым не менш, адзначыў Шубель.

### АЛЯКСАНДР РАДЗЬКОЎ



Калі турыстычныя аб'екты Беларусі не карыстаюцца папулярнасцю ў замежнікаў, трэба прымусіць ездзіць да іх беларускіх грамадзянаў, лічыць першы намеснік кіраўніка адміністрацыі Лукашэнкі Аляксандр Радзькоў.

Падчас наведвання Цэнтральнай гарадской бібліятэкі імя Пушкіна ў Оршы, Радзькоў прапанаваў вызначыць сем найбольш значных месцаў Беларусі, якія абавязаны наведаць кожны жыхар і госць краіны.

«У гэты спіс можна ўключыць Брэсцкую крэпасць-герой, Сафійскі сабор у Полацку, Буйніцкае поле, Мірскі і Нясвіжскі замкі. Пры выбары такіх месцаў хацелася б бачыць не толькі рэлігійныя аб'екты, але і нашы месцы гераічнай славы, культурныя і сацыяльныя аб'екты, святыні нашага народа. Пры гэтым важна, каб яны знаходзіліся ў розных абласцях краіны, каб, наведваючы іх, людзі маглі аб'ехаць усю Беларусь», — сказаў Радзькоў.

Ён удакладніў, што ў цяперашні час праект знаходзіцца ў стане ідэі, і шляхі яго ўвасаблення пакуль дэталёва не абмяркоўваліся. «Рэалізаваць яго плануецца шляхам шырокага грамадскага абмеркавання, прыцягнення экспертнай камісіі», — дадаў ён.

У спіс гэтых аб'ектаў будзе ўключаная Нацыянальная бібліятэка, Палац незалежнасці і іншыя. Але, калі браць такія аб'екты па папулярнасці, то найбольш цікавым для замежнікаў зараз з'яўляецца наведванне Чарнобыльскай зоны. Чаму б і яе не ўнесці ў спіс значных месцаў?

### ІРЫНА ДАРАФЕЕВА



Беларуская спявачка Ірына Дарафеева выступіла ініцыятарам пастаноўкі беларускага мюзікла. Яна натхнілася Дуброўскім.

Справа ў тым, што прататып знакамітага пушкінскага героя цалкам мог быць беларусам. Пушкін двойчы вандраваў па Беларускім тракце, яго нянька, Арына Радзівонаўна, мела беларускія карані, але самы вядомы факт — існаванне небагатага беларускага шляхціца па прозвішчу Астроўскі. Павел Нашчокін, сябра Пушкіна, расказаў яму гісторыю Астроўскага, «які меў працэс з суседам за зямлю, быў выцеснены з маёнтка, застаўшыся з адны мі сялянамі, стаў рабаваць спачатку паддзячых, потым і іншых». Рэальны Астроўскі, як і Дуброўскі, быў вымушаны настаўнічаць у суседняга памешчыка. Пазней трапіў у астрог. Але збег адтуль і не быў адшуканы.

Да гэтай гісторыі звярнуўся кампазітар Кім Брэйтбург. Яго мюзікл называецца «Дуброffскі» і напісаны яшчэ ў 2010 годзе. А ў Дарафеевай, якая з'яўляецца загадчыцай кафедры мастацтва эстрады ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, узнікла ідэя: замест таго, каб займаць студэнтаў асобнымі практыкаваннямі, трэба, каб яны паўдзельнічалі ў пастаноўцы цэльнага твора. Рэжысёрам будзе Мікалай Андросаў, які ў 2011 годзе ставіў у Музычным тэатры «Блакітную камею».

У «Дуброffскім» будуць занятыя каля 200 чалавек. Пераважная большасць з іх — студэнты Універсітэта культуры і мастацтваў. Прэм'ера запланавана на канец мая 2014 года.

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ХТО РАСКОЛВАЕ БЕЛАРУСКАЕ ГРАМАДСТВА?

Сяргей НІКАЛЮК

**Выбары ў Беларусі дазваляюць аддзяляць «нягоднікаў», якія імкнуцца прыбраць да сваіх рук маладую беларускую дзяржаву, ад лаяльнай часткі насельніцтва.**

Як адрозніць простую сістэму ад складанай? Вельмі лёгка. Штурхніце этажэрку, і яна паваліцца. Паваліцца ўся, цалкам. Простая сістэма рэагуе на знешнія і ўнутраныя ўздзеянні як адзінае цэлае. Складаная ж сістэма здольная рэагаваць на ўздзеянні асобнай сваёй часткай. Таму рух ад простага да складанага з'яўляецца найважнейшай умовай павышэння стабільнасці сацыяльных сістэм.

Уладная «вертыкаль» — аналаг этажэркі. У XX стагоддзі яна падала двойчы. Падала на галовы сваіх аўтарытарных прыхільнікаў, аднак двойчы вярталася ў ранейшае становішча.

Складанасць спараджае праблему выбару. А ў аўтарытарнай асобы неабходнасць выбару фармуе стан дыскамфорту. Як тут ні прыгадаць тлумачэнне свайго ўчынку (даў у морду нягодніку) героя Анатоля Папанава ў фільме «Беларускі вакзал»: «Я раптам адчуў сябе як на фронце. Усё зразумела: вось вораг, побач свае, і наша справа справядлівая».

Многія беларусы мараць жыць ва ўмовах такай прастаты. Але марыць, як кажуць, не шкодна.

## Трывожнае адчуванне нестабільнасці

Уладная «вертыкаль» паводзіць сябе як Ванька-ўстанька. Здзіўляцца гэтаму не даводзіцца. Аўтарытарныя грамадзяне, якія складаюць «большасць», — груз унутры пацешнай цацкі. Яны паніжаюць цэнтр цяжару сістэмы.

Перыядычнае абвальванне ўладнай «вертыкалі» стварае ўмовы для... развіцця. Гэта не парадокс: без хаосу Перабудовы мільёны беларусаў сёння б не мелі магчымасці раз'язджаць на ўласных аўтамабілях. Кажучы навукова, нам даводзіцца жыць у сістэме, у якой рэалізуецца трохтактны алгарытм: распад зыходнай структуры — яе рэкамбінацыя з засваеннем новых элементаў (гэта ключавы момант) — стабілізацыя новай структуры.

Няўстойлівасць уладнай «вертыкалі» лепш за ўсіх разумее яе галоўны архітэктар, ён жа адзіны палітыкі (АП). Адсюль уяўленне пра Беларусь як пра «маленькага дзіцёнка», якога ён нясе *«боясь уронить»*. Гэты вобраз я запазычыў з дакладу на першым Усебеларускім народным сходзе (1996).

У 2004 годзе напярэдадні трэцяга канстытуцыйнага рэферэндуму на змену «маленькаму дзіцёнку» прыйшоў «крыштальны сасуд». Гэта значыць, што і праз 10 гадоў пасля трыумфальнай перамогі на першых прэзідэнцкіх выбарах трывожнае адчуванне нестабільнасці так і не пакінула АП.

А зараз перанясемся ў студзень 2014 года: *«...Не потерять бы нам это государство и негодяям не отдать в руки, потому что оно еще слишком молодое. Этим самым мы перечеркнем все, что сделали до сих пор. Это главный вопрос, о котором мы должны всегда помнить»*.

Дзіўнае прызнанне. Памятаць пра крохкасць беларускай дзяржавы мы павінны заўсёды. Як маладосць тут ні пры чым, бо далікатнасць — неад'емная ўласцівасць дзяржавы-этажэркі. У варыянце імперыі Раманавых яна праіснавала 300 гадоў і *«слиняла в три дня»* (паводле словаў гісторыка Васіля Розанава).

Бальшавікі паднялі рэшткі дзяржавы-этажэркі з бруду, запоўнілі яе паліцы камуністычнай ідэалогіяй, што дазволіла ім утрымліваць уладную канструкцыю вертыкальна 73 гады. Але адмяніць трохтактны алгарытм верным ленінцаў было не пад сілу. Ядзерная дзяржава «зліняла» гэтак жа імкліва, як і яе папярэдніца.

Чаканага канца сусвету пры гэтым не надышло. Той, хто гучней за ўсіх бэсціў сваіх палітычных апанентаў за *«клочок бумаги, подписанный в Вискулях»*, лётае сёння на персанальным самалёце. Ніякіх намёкаў (і нават паўнамёкаў) з нагоды жадання перайсці на грамадскі транспарт за апошнія гады ад яго не было заўважна.

## У штатным рэжыме

Час ідэалогій застаўся ў мінулым. Вось і даводзіцца сёння паліцы ў дзяржаве-этажэрцы ператвараць у паліцы супермаркетаў ды запаўняць іх сацыяльна значнымі таварамі з рэгуляваным коштамі. Але такая тэхналогія падтрымання стабільнасці — задавальненне не з танных.




Расійская шчодрасць мае свае межы, а ўласных сродкаў для запаўнення паліц у АП не было першапачаткова. Уладная «вертыкаль» не здольная спараджаць пазітыўныя стымулы для эканамічнага росту, а на ўзмацненні жорсткасці кантролю далёка не заедзеш. Правал мадэрнізацыі ў 2013 годзе гэтую азбукавую ісціну наглядна прадэманстраваў.

У існуючых умовах АП вымушаны звяртацца да класічнага прынцыпу дзяржаўнага кіравання: divide et impera (падзяляй і ўладар). Для яго практычнай рэалізацыі выпрацавана мноства спосабаў. Але, мабыць, на першым месцы па эфектыўнасці стаяць выбары ўсіх узроўняў. Яны дазваляюць аддзяляць авечак ад казлоў, г. зн. нягоднікаў, якія імкнуцца прыбраць да сваіх рук маладую беларускую дзяржаву, ад лаяльнай часткі насельніцтва.

Для гэтага неабходна шматлікая, а галоўнае — згуртаваная каманда прафесіяналаў-аднадумцаў. І такая каманда агульнай колькасцю каля 70 тысяч чалавек у Беларусі створаная. Яна складаецца з чальцоў выбарчых камісій усіх узроўняў.

Большасць незалежных аналітыкаў разглядае маючыя адбыцца ў сакавіку выбары дэпутатаў мясцовых Саветаў у якасці падзеі трэцяга шэрагу: у Беларусі, маўляў, нават парламент рэальных паўнамоцтваў не мае, што ўжо тады казаць пра мясцовыя Саветы.

Але прапаную паглядзець на будучыя электаральныя падзеі з іншага пункту гледжання. Сакавіцкія выбары — гэта генеральная рэпетыцыя выбараў прэзідэнцкіх. 70-тысячны калектыў спецыялістаў па падліку галасоў апошні раз збіраўся ў 2012 годзе. Хтосьці за гэты час з-за аб'ектыўных прычын пакінуў яго шэрагі. Хтосьці даў падставу ўсумніцца ў сваёй здольнасці выяўляць нягоднікаў. Сёння недагледзіш — заўтра бяды не абярэшся.

Мяркуючы па інфармацыі, якая паступае з ЦВК, генеральная рэпетыцыя праходзіць у штатным рэжыме. Адзін з яе ключавых этапаў — фармаванне ўчастковых камісій. З 3148 кандыдатаў ад лаяльных уладзе партый права папоўніць шэрагі прафесіяналаў-аднадумцаў атрымалі 2714 чалавек (86,2%), з 372 кандыдатаў ад апазіцыйных партый — 23 чалавекі (6,2%).

АП падзяляе беларускае грамадства на *«русских со знаком качества»* і *«негодяев»*. У ветэранаў ЦВК — свая тэрміналогія. Працытую словы Мікалая Лазавіка: «Калі чалавек сапраўды варты, дык у яго ёсць усе магчымасці стаць чальцом камісіі».

Паводле Евангелля ад Матфея, права «аддзяляць адных ад другіх, як пастух аддзяляе авечак ад казлоў» было нададзена Сыну Чалавечаму. У Беларусі такім правам надзеленыя прадстаўнікі ўладнай «вертыкалі». Яны выбіраюць вартых. Зразумела, паводле ўласных крытэраў.

Але сярод вартых маюцца найбольш вартыя. 531 прадстаўнік Беларускай аграрнай партыі быў уключаны ў склад участковых выбарчых камісій (91,1% ад колькасці пададзеных заявак). Пры такой актыўнасці партыя не змагла вылучыць са сваіх шэрагаў ніводнага (!) кандыдата ў дэпутаты. І гэта пры тым, што ад агульнай колькасці кандыдатаў (22 784 чалавек) у сельскай гаспадарцы працуе 22,7%.

Уклад працаўнікоў сельскай гаспадаркі ў беларускую эканоміку не дацягвае да 8%, што нельга супаставіць з укладам сельскай гаспадаркі ў агульны аб'ём пратэрмінаванай крэдыторскай запазычанасці — 25,4% на 1 снежня 2013 года.

Згодна са студзеньскім прызнаннем АП, *«мы в сельское хозяйство вгрохали около 50 млрд. долларов на модернизацию»*. Каму можна даверыць угрохаць столькі народных грошай? Нягоднікам? Ні ў якім разе. Толькі рускім са знакам якасці. А ў такіх асобах недахопу ў нас няма. Што ЦВК у чарговы раз і пацвердзіў.

## А як жа прыватнікі?

28 студзеня АП правёў нараду пра стан і развіццё спажыўкааперацыі Беларусі. Шараговая нарада, стандартны напор пытанняў, стандартны набор прэтэнзій... Абмяжуюся адной: *«А ведь у вас* (у старшыні праўлення Белкаапсаюза Валерыя Іванова) *было конкурентное преимущество! Вы первыми в стране занялись этим направлением. При максимальной доступности и высокой мобильности в сельской местности уступать лидерство частникам, да еще имея различные преференции государства, недопустимо»*.

Згодна з артыкулам 13 Канстытуцыі РБ, «дзяржава надае ўсім роўныя правы для ажыццяўлення гаспадарчай і іншай дзейнасці, акрамя забароненай законам, і гарантуе роўную абарону і роўныя ўмовы для развіцця ўсіх форм уласнасці». На якой тады падставе Белкаапсаюз атрымлівае *«различные преференции государства»*? А як жа прыватнікі? Нешта я не ўзгадаю, калі ў апошні раз на нарадах у АП абмяркоўваліся пытанні наконт прадстаўлення прэферэнцый прыватнікам.

Асаблівая ўвага да прадпрыемстваў Белкаапсаюза магла б апраўдаць іх здольнасць адгукацца на прэферэнцыі падвышанай эфектыўнасцю. Аднак нічога падобнага не назіраецца. Наадварот, *«пока в сфере производства Белкоопсоюза — техническая, технологическая отсталость, а на некоторых предприятиях — дремучесть, неконкурентоспособность производимой продукции»*.

Прычыну «дрымучасці» кіраўнік Белкаапсаюза патлумачыў непаваротлівасцю кадраў, адсутнасцю дзелавой хваткі і прадпрымальнасці. Натуральна, прагучалі запэўненні з нагоды аналізу, ацэнкі і прыняцця адпаведных рашэнняў.

Канешне, кадры ў Белкаапсаюзе не пакутуюць на залішнюю прадпрымальнасць, але яны ні разу не былі абвінавачаныя ў недахопе палітычнай лаяльнасці. А вось ад прыватніка можна патрапіць *«в такую кабалу, <...> что мы будем полностью от них зависимы»*. І чым больш эфектыўны будзе прыватнік, тым вышэй залежнасць.

Зноў працытую героя Анатоля Папанава з фільму «Беларускі вакзал»: «Я раптам адчуў сябе як на фронце. Усё зразумела: вось вораг, побач свае, і наша справа справядлівая».

Што тут сказаць! Галоўная характарыстыка беларускага грамадства — раскол. Паводле гісторыка Аляксандра Ахіезера, «раскол ёсць асаблівы стан сацыяльнай сістэмы, для якога характэрныя ўстойлівы працяглы разрыў камунікацый паміж пластамі грамадства. Раскол прыводзіць да таго, што адзін бок гэтага працэсу развіваецца за кошт дэзарганізацыі іншага і наадварот».

Расколатае грамадства неканкурэнтаздольнае. Але без дапамогі дзяржавы шанцы на пераадоленне расколу мінімальныя. На жаль, АП адмаўляецца гуляць ролю медыятара. Так яму прасцей вырашаць тактычныя задачы, і таму з Беларускага вакзала працягваюць ісці на фронт цягнікі.

ІНТЭГРАЦЫЯ

# САЮЗ БЕЗ МАЙТКОЎ

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**На гэтым тыдні галоўнай навіной, што горача абмяркоўвалася, стала забарона на тэрыторыі краін Мытнага саюза вытворчасці, увозу і продажу карункавых майткоў. Нішто сабе падаруначак пад 8 сакавіка!**

## Негіграскапічныя

Забарона была выкліканая тым, што прадукцыя не адпавядае тэхрэгламенту Мытнага саюза, патлумачыў, канешне ж, мужчына, міністр па пытаннях тэхнічнага рэгулявання Еўразійскай эканамічнай камісіі Валер Карашкоў. Тэхрэгламент усталёўвае розныя патрабаванні да вытворчасці і продажы бялізны. Бялізна з поліяміду, нейлону і поліэстэру адпавядае ўсім яго патрабаванням, акрамя аднаго — гіграскапічнасці (здольнасці прыбіраць вільгаць). У тэхрэгламенце ўсталяваны ўзровень 6%, але сподняя бялізна з поліяміду, нейлону і поліэстэру мае ўзровень гіграскапічнасці каля 3–3,6%.

Жанчыны ва ўсіх трох краінах сталі адстойваць сваё права насіць шкодныя негіграскапічныя майткі. У Казахстане некаторыя дамы нават выйшлі на дэманстрацыю, маючы на галаве ўякасці ўпрыгожвання гэтыя самыя прадметы інтымнага характару.

Але за майткамі ўзнікла іншае пытанне: а што за звер такі — Мытны саюз? І што мы ўвогуле ад яго займелі?

## Усё для дзяржавы

Мытны саюз існуе з 2010 года. Па ідэі, гэтае стварэнне павінна было палепшыць умовы працы для вытворцаў трох краінаў — Беларусі, Расіі і Казахстану, уніфікаваўшы ўсе мытныя зборы і пошліны. Адпаведна, павінны быць уніфікаваныя і розныя прамежкавыя дакументы, кшталту тэхрэгламентаў выпуску прадукцыі — яна павінна быць аднолькава бяспечнай ва ўсіх трох дзяржавах.

Выгаду з уваходжання ў Мытны саюз Беларусь, перш за ўсё, атрымала ў паніжэнні мытаў на нафту і газ. «Беларусь толькі за кошт зніжэння цэнаў на энерганосьбіты пры далучэнні да Мытнага саюза пры яго стварэнні атрымала плюс 16 адсоткаў ВУП», — хваліўся прэзідэнт Расіі Уладзімір Пуцін 12 ліпеня 2013 года ў Ялце на прэс-канферэнцыі са сваім украінскім калегам Віктарам Януковічам.




«За гэтыя тры гады Беларусь нарасціла экспарт у Казахстан, калі параўноўваць долю ў казахстанскім імпарце, на 15%, гэта значыць павялічыла сваю прысутнасць на казахстанскім рынку на 15%, на расійскім рынку — на 20%. Эфект ад Мытнага саюза відавочна адбіваецца на беларускім экспарце», — прыкладна тады ж казаў міністр па гандлі Еўразійскай эканамічнай камісіі (ЕЭК) Андрэй Сляпнёў.

Аднак яшчэ Марк Твэн казаў: «Ёсць хлусня, ёсць вялікая хлусня, і ёсць статыстыка». І вышэйпрыведзеныя лічбы — якраз статыстыка паводле Твэна. Аб'ём знешняга гандлю таварамі дзяржаў-сябраў Мытнага саюза з трэцімі краінамі, па апошніх дадзеных (студзень-лістапад 2013 года), паменшыўся на 0,7%, або на 5,7 мільярда долараў, гаворыцца ў матэрыялах ЕЭК. Паводле падлікаў эканаміста Леаніда Заікі, толькі за першае паўгоддзе 2013-га Беларусь страціла 17% свайго экспарту, Казахстан — 14%, а Расія — 5%.

## Ні сабе, ні людзям

Што тычыцца людзей, то самым гучным вынікам «братэрства» ў МС стала значнае павышэнне ўвазных пошлін на аўтамабілі — іх зраўнялі з расійскімі. Каб паспець да падаражання, беларусы кінуліся купляць тое, на што хапала грошай, і ўзнік валютны крызіс 2011 года. Зараз мала хто здольны абнавіць асабісты аўтапарк — без 10 тысяч долараў на аўтарынку рабіць няма чаго.

Не менш гучным вынікам стала ўвядзенне сертыфікатаў адпаведнасці прадукцыі тэхрэгламенту Мытнага саюза для прадпрымальнікаў. Ад вялікага розуму беларускія (і толькі беларускія) улады запатрабавалі, каб кожны прадпрымальнік меў такія сертыфікаты на сваю прадукцыю лёгкай прамысловасці ў абавязковым парадку. З-за складанасці і даражэзнасці экспертызаў у мінулым годзе даходзіла аж да страйкаў прадпрымальнікаў. У выніку гэтая норма была «адкладзеная» да лета 2014 года, але ніхто не дасць гарантыі, што сітуацыя не паўторыцца.

Калі Расія ў межах МС «падаравала» нам танныя энерганосьбіты, можна было б чакаць, што ў нас будуць зніжацца кошты на бензін, ЖКГ і іншае. Атрымліваецца наадварот — паслугі ЖКГ у 2013 годзе падаражэлі амаль на 40%. Бензін даражэў у мінулым годзе пяць разоў: спажывецкія цэны на АІ–95 у Беларусі ў 2013 годзе выраслі на рэкордныя для краін Мытнага саюза 20%. Пры гэтым у Расіі кошт на бензін вырас на 5,9%, прыкладна на столькі ж — у Казахстане.

Адпаведна, амаль удвая вырас праезд у грамадскім транспарце.

Зраўняліся з расійскімі, чытай — выраслі, кошты ў Казахстане і Беларусі на цэлы шэраг прадуктаў харчавання і вытворчасці, перш за ўсё на малако і хлеб.

Нам абяцалі, што, да прыкладу, беларускія трактары і МАЗы з БелАЗамі будуць з рукамі адрываць у бязмытных Расіі і ў Казахстане, аб'ёмы вытворчасці вырастуць, а ўслед за імі і заробкі.

Адбылося ўсё гэта «з дакладнасцю да наадварот»: адна з пастаноў расійскага ўрада адмяніла прэферэнцыі ў 15% для беларускай сельгастэхнікі і такім чынам практычна закрыла ёй доступ на расійскі рынак. З-за ўвядзення ў Расіі ўтылізацыйнага збору на тэхніку на 18% падаражэе МАЗ.

А што тычыцца жаночых майткоў, то толькі ў 2011 годзе самы вядомы вытворца беларускай жаночай бялізны — СП «Мілавіца» — з-за пошлін Мытнага саюза страціў 2,5 мільёна еўра. Матэрыялы для вытворчасці гарсэтных вырабаў імпартуюцца прадпрыемствам з 16 краін свету. Да ўступлення ў сілу правілаў Мытнага саюза сярэдняя мытная пошліна на імпартаваныя матэрыялы складала для «Мілавіцы» 4,5%, а пасля пачатку дзеяння МС яна вырасла да 12,5%. Павышэнне пошлін паставіла пад пагрозу цэнавую канкурэнтаздольнасць беларускага вытворцы.

Карацей, ніякай карысці, апроч шкоды, ад Мытнага саюза мы не зазналі. Танныя кошты на нафту і газ, на жаль, ніякім чынам не адбіліся на простых жыхарах Беларусі.

## А што з бялізнай?

Пакуль што карункавыя майткі з продажу не знікаюць. Той жа самы Валер Карашкоў патлумачыў, што да 1 ліпеня 2014 года ідзе «пераходны перыяд», і дапускаецца вытворчасць і выпуск у абарачэнне майткоў па раней выдадзеных сертыфікатах адпаведнасці.

З іншага боку, міністр па пытаннях тэхрэгулявання ЕЭК прапануе вытворцам крышачку махляваць: альбо выкарыстоўваць больш дарагія і якасныя тканіны, альбо ўключаць у канструкцыю ўстаўкі з цалкам гіграскапічных матэрыялаў. Такім чынам атрымоўваецца дамагчыся, каб у цэлым па вырабе паказчык гіграскапічнасці адпавядаў нормам.

Таксама Еўразійская эканамічная камісія гатова разгледзець прапановы аб унясенні змяненняў у тэхрэгламент аб бяспецы прадукцыі лёгкай прамысловасці ў той частцы, якая тычыцца патрабаванняў да нацельны бялізны. «Тэхрэгламент — не догма, і мы з задавальненнем можам прыняць і разгледзець любыя змены ў яго», — паведаміў Карашкоў, адзначыўшы, што на сённяшні момант такіх прапаноў няма. «Калі такія прапановы паступяць, мы зробім усё магчымае, каб у самыя кароткія тэрміны іх разгледзець і прыняць адпаведныя рашэнні», — падкрэсліў Карашкоў, дадаўшы, што такая працэдура можа заняць некалькі месяцаў.

Але, у сувязі са скандалам наконт сподняй бялізны, варта ўсё ж задумацца больш глабальна: ці патрэбны нам такі саюз, які пакідае нас без майткоў?

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# КУДЫ СЫХОДЗЯЦЬ СВІННІ

**Усе ведаюць, што галоўнай прычынай для нездавальняючага стану айчыннай прамысловасці з'яўляецца празмернае павялічэнне складскіх запасаў гатовай прадукцыі.**


www.metronews.ru

У адрозненні ад прамысловасці, сельская гаспадарка мае ўстойлівы збыт. Прыкладам, аграрнікі разам з перапрацоўшчыкамі, якім хоць і даводзіцца весці з пакупнікамі «лакальныя войны» за збыт, урэшце дабіваюцца свайго. Скажам, у мінулым годзе доля сельскагаспадарчай прадукцыі склала амаль 60% усяго спажывецкага тавару Беларусі. Больш, чым бытавой тэхнікі, тканін, адзення, абутку, вырабаў бытавой хіміі. Карацей, больш, чым уся прамысловасць...

Вядома, што сярод іншых галін эканомікі аграпрамысловы комплекс лічыцца прыярытэтным, і таму ад яго чакаюць надзвычайных поспехаў. І, калі ўжо гаварыць пра тэндэнцыі, яны павінны мець выразныя прыкметы. І прыкметы ёсць, аднак яны не радуюць. Па дадзеных Белстата, у мінулым годзе вытворчасць сельскагаспадарчай прадукцыі скарацілася на 6%. Але пры гэтым вытворчасць зерневых і зернебабовых склала толькі 82,2% у параўнанні з 2012 годам, бульбы — 85,5%. А гэта базавыя культуры. Па зерневых разлічваюць узровень нацыянальнай харчовай бяспекі. А бульба, якая лічыцца «другім хлебам», акрамя скарачэння вытворчасці вызначаецца і катастрафічным падзеннем якасці. Нездарма айчынныя аграрыі патрабуюць падвысіць мытныя бар'еры для імпарту бульбы ў Беларусь.

Вытворчасць прадукцыі жывёлагадоўлі больш незалежная ад надвор'я. Таму мае сэнс разважаць аб працяглых тэндэнцыях, якія існуюць для вызначэння стратэгічнага развіцця галіны. Прыкладам, у малочнай жывёлагадоўлі рабілася стаўка на ўстойлівае падвышэнне эфектыўнасці да 7–10 літраў малака ад каровы, што абяцала канчаткова вырашыць гэту праблему, выйсці на сярэднееўрапейскі ўзровень. Аказалася, трэба пачакаць. Як кажуць спецыялісты, не год і не два, а нашмат болей.

Што тычыцца птушкаводства, то гэта больш «фабрычная» вытворчасць, чым сялянская, і таму патрабуе амаль што выключна фінансавых рэсурсаў. Зразумела, дзяржаўных рэсурсаў, бо гэта вытворчасць таннага мяса для насельніцтва, якое не мае высокіх прыбыткаў.

Рэалізацыя жывёлы і птушкі на забой склала 108,3% у параўнанні з 2012 годам. Але радавацца няма чаму. Прыкладам, у асобных раёнах рэалізацыя павысілася на 25–29% (Кобрынскі, Пінскі, Пружанскі), на 20,2% — у Чашніцкім раёне, на 38–39% (!) — Лельчыцкім і Кармянскім раёнах.

У Хоцімскім раёне Магілёўскай вобласці рэалізацыя жывёлы і птушкі падскочыла ў параўнанні з 2012 годам на 46,9%. Відавочны форс-мажор у «асобна ўзятым» сельскім раёне, дзе даваўся пусціць пад нож палову свінога статку, якому пагражала магчымасць за хваробы ад АФЧ.

По стану на 1 студзеня 2013 года грамадскія гаспадаркі мелі 3,304 мільёна свіней, на 1 студзеня 2014 года засталася 2,797 мільёна (84,6%). У Брэсцкай вобласці засталося 82% статку, у Віцебскай — 64,7%, у Гомельскай — 97,6%, у Гродзенскай — 89,3%, у Мінскай — 87%, у Магілёўскай — 87,4%.

А пагалоўе свінога статку ў гаспадарках Баранавіцкага раёна паменшылася з 82,26 да 35,03 тысяч галоў (да 42%). З гэтай жа нагоды ўпершыню за ўсю гісторыю калгаснай эканомікі Беларусі з'явіліся «свабодныя ад свіней» раёны. Яшчэ год таму кожны раён меў хоць маленькую свінаферму, зараз яны пазакрываныя ў 17 раёнах усіх абласцей.

Памятаю, як у 1999 годзе, калі гаспадаркі не назапасілі дастатковай кольнасці кармоў, было прынята рашэнне вывезці кароў з бедных калгасаў на зімоўку ў багатыя. З прыходам вясны большая частка гэтай скаціны не вярнулася дахаты. Трапіла на мясакамбінаты.

Здаецца, і свінні больш не вернуцца ў тыя 17 раёнаў.

ПРЭЗЕНТАЦЫЯ

# Святлана Алексіевіч: «Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ТАКОЕ ПАТРЫЯТЫЗМ»

Таццяна ШАПУЦЬКА

**На прэзентацыю беларускага перакладу кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд. Канец чырвонага чалавека», які выйшаў у выдавецтве «Логвінаў», сабралася паўтары сотні прыхільнікаў пісьменніцы.**

Імпрэза, падрыхтаваная Саюзам беларускіх пісьменнікаў ды крэатыўнай прасторай ЦЭХ, працягвалася болей як дзве гадзіны. Пасля ўступнага слова кіраўніка СБП Барыса Пятровіча Святлана Алексіевіч коратка распавяла пра працу над кнігай, некаторыя ўрыўкі з якой пранікнёна зачытала народная артыстка Беларусі Зінаіда Бандарэнка.

«Сэканд-хэнд — гэта мой дыягназ таму, што адбываецца, гэтай рэстаўрацыі. Дарэчы, я, калі пачынала кнігу, была настроеная больш аптымістычна. Я памятаю Адамовіча, Быкава, нашыя размовы, калі яны сядзелі і казалі — вось пройдзе 20 гадоў, максімум 40, калі падрасце новае пакаленне, нам трэба дачакацца гэтага новага пакалення... Ну і дачакаліся, і не так усё проста ў гэтым новым пакаленні. Камунізм сышоў, чалавек застаўся. Застаўся чалавек, які не ведае, як жыць», — растлумачыла Святлана Алексіевіч назоў кнігі.

Святлана Аляксандраўна распавяла, што шмат чаму навучылася ў Алеся Адамовіча: «Калі б ён (Алесь Адамовіч) застаўся жывы, і калі б наш народ яго выбраў, што таксама малаверагодна, мы маглі б быць такой Чэхаславакіяй. Мне пашчасціла, бо я пабачыла чалавека, які здолеў вырвацца з гэтага плоскага сусвету, з гэтай сістэмы. Адамовіч быў чалавек еўрапейскага складу, ён мне даў больш, чым універсітэт — навучыў мяне мысліць».

Большасць часу пісьменніца размаўляла з чытачамі — распавядала гісторыі са свайго жыцця, дзялілася цікавосткамі, адказвала на пытанні з залі. А пытанняў было дастаткова — і пра мову, і пра Майдан, і пра патрыятызм.

«Свабоды няма ні на тым баку барыкадаў, ні на гэтым. Каштоўнасць жыцця — капейка, гэта самае страшнае. Нават калі я гляджу на Кіеў (я ж напалову ўкраінка), як я захоплена прымала ўсё напачатку, і як цяпер, калі я бачу многія рэчы, мне страшна. Бо няма свабодных людзей. Усе кажуць пра свабоду, а свабодных людзей няма. І тое, што павінна рабіць літаратура, тое, дзеля чаго я напісала гэтыя 5 кніг — каб данесці: свабоду не на вуліцы зробіш, а ўнутры, у душы... Няма чаго бегчы на вуліцу, бо калі душа пустая, ты пабяжыш туды з сякерай», — дала сваю ацэнку падзеям у Кіеве пісьменніца.



«Я зараз адкажу на такое пытанне, і больш адказваць не буду. Я займалася гісторыяй утопій, чырвонай утопіі. Утопія размаўляла на рускай мове. Я займалася той краінай, з якой мы ўсе выйшлі, — яны ўсе казалі на рускай мове. Болей за тое, я ніколі не хавала таго, што я магу размаўляць па-беларуску. Але паколькі я ўвесь час карыстаюся рускай мовай, я не роўная сабе, калі размаўляю па-беларуску: я не магу так хутка казаць, так хутка разважаць, у мяне няма гэтай моўнай практыкі. Я разумею, што пытанне мовы важнае для нацыі, але я пісала зусім пра іншае. Таму ў мяне руская мова. І ставіць гэта мне ў віну... Я ўжо стамілася ад гэтага за 20 гадоў», — адказала пісьменніца на пытанне пра мову.

Кіраўнік TUT.by Юры Зісер запытаўся Святлану Алексіевіч, што такое патрыятызм.

«Я і сама не ведаю, што гэта, — пасміхнулася пісьменніца. — Пасля чарнобыльскай кнігі для мяне гэтага пытання няма. Там, у Чарнобылі, гэта быў пераварот усёй маёй свядомасці. Я чула аповед бортніка — ён ходзіць па вуліцы першыя дні, а пчолы тыдзень не вылазяць з вулляў. Яны адчувалі, мы — не. Рыбакі распавядалі, што чарвякі не маглі дастаць з зямлі, чарвякі глыбока туды сышлі. Першыя адчуванні, якія там былі, — не тыя, што ты беларуска, ці руская, ці француженка, ці яшчэ нехта, а прадстаўнік біявіду, які можа знікнуць, як матылёк. Я прыехала адтуль з абсалютна касмапалітычным поглядам. Я зразумела, што ёсць зямля, ёсць чалавек. І ўсё. Нашая нацыянальнасць — чалавек».

Пасля прэзентацыі кіраўнік СБП Барыс Пятровіч распавёў «Новаму Часу», што ініцыятыва перакласці кнігу ішла ад Саюза беларускіх пісьменнікаў:

— Калі мы сустракаліся са Святланай Аляксандраўнай у Львове, там былі дні беларускай і шведскай літаратуры і культуры. Яна там сказала, што рыхтуецца выхад гэтай кнігі. Сапраўды неўзабаве кніга выйшла спачатку па-французску, па-шведску, панямецку, па-англійску, і мы падумалі — як гэта так, напісана па-руску, выходзіць на мовах свету, а чаму яе няма па-беларуску. Мы папрасілі Святлану Аляксандраўну даць рускамоўны тэкст, папрасілі перакладчыкаў тэрмінова перакласці, і вось кніга выйшла. Кніга шчырая і справядлівая, вельмі дакладная і жорсткая ў адносінах да таго часу, у якім мы жылі і жывем. Таму яна не магла быць надрукаваная ў некаторых выдавецтвах, і толькі выдавецтва «Логвінаў» пагадзілася выдаць гэты твор. Трэба быць удзячным ім за тое, што яны зрабілі.

Кніга была перакладзена ў рэкордныя тэрміны — усяго за 3 месяцы. Для таго, каб аператыўна выдаць беларускі варыянт, былі задзейнічаныя два перакладчыкі — Валеры Стралко і Ціхан Чарнякевіч. Зараз кніга рыхтуецца ў перакладзе на польскую і італьянскую мовы.

Набыць беларускі пераклад кнігі Святланы Алексіевіч «Час сэканд-хэнд. Канец чырвонага чалавека» можна ў кнігарні «Логвінаў» ды ў інтэрнэт-краме imbryk.by.

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ДЫСЕРТАЦЫЮ ПІНЧУК НЕ ЗАЦВЕРДЗІЛІ

Марат ГАРАВЫ

**Вышэйшая атэстацыйная камісія (ВАК) не зацвердзіла паспяхова абароненую дысертацыю Наталлі Пінчук, жонкі вядомага беларускага палітвязня, праваабаронцы Алеся Бяляцкага.**

Тэма дысертацыі Наталлі Пінчук — «Ювелірныя ўпрыгажэнні касцюма IX–XIII стагоддзяў (фактары фарміравання і стылістычныя асабліваці мастацкай традыцыі на тэрыторыі Беларусі)». Яе Наталля абараніла ў Цэнтры даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Савет па абароне дысертацый аднагалосна прагаласаваў за прысваенне суіскальніцы навуковай ступені кандыдата мастацтвазнаўства. Аднак гэта рашэнне было адменена прэзідыумам ВАК, які спаслаўся на адмоўнае заключэнне свайго экспертнага савета па мастацтвазнаўству і культуралогіі.

У дысертацыі навукоўца даследавала больш за тысячу старажытных упрыгожанняў, найперш — меней вывучаныя бронзавыя вырабы. Артэфакты, якія з канца XIX да пачатку XXI стагоддзяў былі ўведзеныя ў навуковы абарот пераважна беларускімі археолагамі, сталі найбольш каштоўнай крыніцай для вывучэння мастацкай традыцыі ювелірнай аздобы.

Вось як пракаментавала НЧ сітуацыю сама Наталля Пінчук:


Фота аўтара

— Кожная навуковая праца можа (і нават павінна) утрымліваць новыя высновы, з якімі бывае цяжка пагадзіцца прадстаўнікам ранейшай навуковай традыцыі. Вядома ж, бываюць і недакладнасці — больш ці менш сур'ёзныя.

Разам з тым мяне ўразіў непрафесіяналізм заўвагаў, пытанняў і абвінавачванняў, якія зыходзілі ад эксперта ВАК, што падрыхтаваў водгук на маю працу. Менавіта на гэтай аснове і быў вынесены адмоўны вердыкт.

Я разумею, што большасць членаў камісіі — не спецыялісты ў маёй навуковай тэме, але гэта не нагода прымаць пад увагу галаслоўныя сцверджанні рэцэнзента, не падмацаваныя канкрэтнымі фактамі.

Даследаваннем тэмы я займалася доўгі час, і вынікам стала праца, дзе матэрыяльныя помнікі сярэднявечча асэнсаваныя з мастацтвазнаўчага пункту гледжання.

Я звяртала ўвагу на эстэтычныя вартасці ўпрыгожанняў, выявіла характэрныя рысы сілуэту, аб'ёму, пластыкі, кампазіцыі, колеру, якія ўласна і фармавалі мастацкі вобраз ювелірнай рэчы. Вялікую ролю ў стварэнні вобразнай і эмацыйнай выразнасці ўпрыгожанняў меў арнамент.

У дэкоры ўпрыгожанняў гэтага перыяду вылучаюцца геаметрычныя матывы і матывы расліннага, заамарфнага і антрапаморфнага характару. Элементы і матывы арнаменту былі не проста дэкорам, але з'яўляліся дахрысціянскімі сімваламі, магічны сэнс якіх тады яшчэ не быў страчаны. Даўнія традыцыі, заснаваныя на мясцовых вераваннях, праявіліся ў геаметрычных матывах кола, ромба і г.д. А мастацкія ўплывы з Усходу і Захаду зазначыліся пашырэннем раслінных выяваў у выглядзе крына (трохпялёсткавая кветка, лілея ці дрэва жыцця) і вінаграднай лазы, жывёльных матываў (грыфонаў і цмокаў). Антрапаморфныя (звязаныя з постаццю і абліччам чалавека) выявы часцей адлюстроўвалі хрысціянскую тэматыку. У стылістыцы ўпрыгажэнняў архаічныя традыцыі перапляталіся з візантыйскім і раманскім стылямі.

Стрыманасць у выкарыстанні мастацкіх эфектаў, якая назіраецца ва ўпрыгожаннях з беларускіх зямель, не прыводзіць да іх спрашчэння, а наадварот, праз лаканізм мастацкай мовы, праз цудоўнае адчуванне матэрыялу, дакладныя прапорцыі выяўляе іх высакароднасць і высокі мастацкі густ майстроў ювелірнай справы тагачаснай беларускай зямлі.

***

Заўвагі ВАК суіскальніцу проста агаломшылі, бо адны не мелі дачынення да тэмы дысертацыі, другія выглядалі проста дзіўна. Напрыклад, эксперт выказаў заўвагу наконт адсутнасці ўзгадак пра напрастольны крыж Еўфрасінні Полацкай у працы, прысвечанай аздобе строю.

Таксама была выказана прэтэнзія наконт адсутнасці прыкладаў Протарэнесансу (Протарэнесанс — этап у гісторыі культуры Італіі, якога не было ні ў іншай адной еўрапейскай краіне!) у ювелірнай аздобе з тэрыторыі Беларусі IX–XIII стагоддзяў. Хоць такіх прыкладаў проста не існуе.

Абурэнне эксперта тым, што мастацтвазнаўца не пераправерыла стратыграфію ювелірных вырабаў, выглядае ўвогуле абсурдна, бо стратыграфія — гэта ўзаемнае размяшчэнне культурных слаёў у глебе (яно непазбежна парушаецца ў выніку раскопак).

Як недахоп дысертацыі было адзначана і нежаданне Наталлі Пінчук карыстацца «выразнай», на думку эксперта, класіфікацыяй помнікаў: «сакральныя, свецкія і паганскія». Не трэба быць навукоўцам, каб зразумець недарэчнасць такога падыходу, бо і паганскія творы могуць быць сакральнымі.

Некаторыя заўвагі эксперта, якія ўвогуле цяжка зразумець, варта прывесці з захаваннем аўтарскага стылю і арфаграфіі: «Не пераканаўча зроблена выяўленне ўзаемасувязі стылявых і тыпалагічных ювелірных вырабаў у розных перыядах. Фактычна не прасочаны узаімаўплыў формаабразуючых канцэпцый мастацкіх ідэй ювелірнай справы і іншых відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва; спосабы іх узаемадзеяння ў розных перыядах».

А можа, рашэнне ВАК звязана з тым, што муж Наталлі, Алесь Бяляцкі — вядомы праваабаронца, які ўжо трэці год знаходзіцца за кратамі, а сама Наталля актыўна змагаецца за яго вызваленне?

7

# ТэлеТыдзень

TV

## 24 лютага, панядзелак

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Галоўны эфір.
**10.05** Рамантычная камедыя «Пяць нявест» (Расія).
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Нашы.
**13.10** Кінараман «Афіцэры» (СССР).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Баявік «Тры ікс 2: новы ўзровень».
**17.15** БеларусьLIFE.
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Арэна.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Форум.
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.35** Дзень спорту.
**00.45** Баявік «Адчайны» (ЗША).

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.05** Контуры.
**10.05** Жыць здорава!
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.10** Яны і мы.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: Зваротны адлік.
**19.00** Чакай мяне.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Ток-шоў Пазіцыя.
**22.05** Канцэрт Хварастоўскага.
**23.35** Фільм «Асноўны інстынкт».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**08.30** «Тыдзень».
**09.45** «Вялікі сняданак».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Такі лёс».
**12.25** «ХораШоў». Паўфінал.
**13.50** «Вялікі горад».
**14.25** «Зорны рынг. Новы сезон.
**15.35** «Іншая краіна».
**16.20** «Наша справа».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Ежа багоў».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХораШоў».
**20.20** Фільм (Францыя, 2008 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ваенная таямніца».

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія).
**10.10** Навіны надвор'я.
**10.45** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.55** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**13.55** «Пад грыфам «Вядомыя».
**14.30** Эксцэнтрычная камедыя «Мільянер нехаця» (ЗША).
**16.20** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія).
**19.00** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 1-я - 3-я серыі.
**21.45** КЕНО.
**21.55** Тэлебарометр.
**22.00** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.10** «Перазагрузка». Моладзевае ток-шоў.
**23.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**00.45** «Спыніся!» Дак. фільм.

### Беларусь 3

**07.20** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Карані».
**08.50** «Майстры і чаляднікі». Ткачыхі.
**09.20** «Наша спадчына». Кармянская святыня.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра мову».
**10.45** Серыял. «Доктар Жывага». 7 серыя.
**11.30** «Калейдаскоп».
**11.40** «Год у гісторыі».
**11.55** «Святло далёкай зоркі». Памяці дырыжора, народнага артыста Беларусі Юрыя Яфімава.
**12.25** «Скарбніца Гарадзеншчыны». Вецер перамен. Харальная сінагога ў Гродне.
**12.55** «Цуды прыроды». Лапландыя. Альпы. Францыя. Гібралтар.
**13.20** «Паром». Кароткаметражны фільм.
**14.00** «На беразе ракі Фантанкі». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага паэта Міхаіла Дзяржавіна.
**14.35** «Гісторыя аднаго горада». Дакументальны фільм пра мінулае горада Мінска.
**15.00** «Музеум». Партрэты сям'і Вясялоўскіх.
**15.15** Канцэрт Дзяржаўнага камернага аркестра Рэспублікі Беларусь. Саліст - народны артыст Расіі Фрыдрых Ліпс.
**16.50** «Наперад у мінулае».
**17.15** «Росчырк часу». Фотамастак Мірон Шчудло.
**17.30** «Кінаіндустрыя Краіны Саветаў». Вехі гісторыі Савецкага кінематографа: асобы, стужкі.
**18.25** «Палескі пачастунак». Запяканка «па-берасцейску».
**18.40** «Запаведнай сцежкай». Заказнік «Лебядзіны Мох-Патокі».
**19.10** «Камертон». Хор Турэцкага.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Доктар Жывага». 8 серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.45** «Дыя@блог». «Пра мову».
**22.15** «Гарачыя дзянёчкі». Мастацкі фільм.
**23.40** «Святло далёкай зоркі». Памяці дырыжора, народнага артыста Беларусі Юрыя Яфімава.
**00.10** «Калейдаскоп».
**00.15** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Беларусь сёння».
**08.15, 09.00** Маст. фільм «Турэцкі гамбіт».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.10** Праграма «Беларусь сёння».
**23.40** Ток-Шоў «Слова за слова».
**00.30** Праграма «Агульны інтарэс».
**00.55** Тэлесерыял «Хакейныя гульні».
**02.35** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**04.20** Праграма «Беларусь сёння».

### НТВ

**06.07, 07.07** НТБ раніцай.
**08.11** Цуд тэхнікі.
**08.45** Новыя рускія сенсацыі.
**09.37, 10.20** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.59** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.23** Справа лекараў.
**15.11** Гатуем.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.38** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.36, 20.15, 21.23, 22.10** Марскія д'яблы.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37** Мастацкі фільм НТБ.
**01.15** Паверх.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 11.50** ПраСвет.
**07.25, 12.50** Зона «Свабоды».
**07.55, 13.30** «Людскія справы».
**08.30, 12.20** Два на два (тэледыскусія): Беларускае праваслаўе ў цэню Масквы.
**09.00** Дакументальная гадзіна: «Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**09.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**10.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**10.55** «Mad Men. Утрапёныя», серыял.
**11.40** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**14.00** «Антон Астаповіч: каб ведалі, адкуль наш род!», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**14.15** Дакументальная гадзіна: «Планета Кірсан», дак. фільм, 2010 г., Польшча–Расія.
**15.10** Эксперт (сатырычная праграма).
**15.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**15.55** «Рэквіем», маст. фільм, 2006 г., Германія.
**17.30** Без рэтушы: «Школа спакушэння», рэпартаж, 2014 г., Беларусь.
**17.45** Моўнік (лінгвістычная праграма): Зняважаная мова зямлі.
**18.00** «Mad Men. Утрапёныя», серыял.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20, 20.15** Гарачы каментар.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.35** Асабісты капітал.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 02.25** Відзьмо-невідзьмо.
**22.10** «Рэквіем», маст. фільм, 2006 г., Германія.
**23.45** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**01.20** Асабісты капітал.
**01.40** Аб'ектыў.
**02.10** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.

## 25 лютага, аўторак

### Беларусь 1

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыханне».
**12.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыханне».
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.40** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

### ОНТ

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Жыць здорава!.
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.10** Яны і мы.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.20** Смешнае і яшчэ смешней.
**18.50** Хай кажуць.
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**23.20** Вострасюжэтны фільм «Чужы 3».
**01.20** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Дзённік «ХораШоў».
**09.05** «Ежа багоў».
**10.00** «100 адсоткаў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** Дзённік «ХораШоў».
**11.40** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Цэнтральны рэгіён».
**13.50** Фільм «Шэрлак Холмс» (ЗША - Германія, 2009 г.).
**16.10** Дзённік «ХораШоў».
**16.15** «Далёкія сваякі».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Дзённік «ХораШоў».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Свята пад замком» (Расія).
**21.55** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**00.00** «Аўтапанарама».
**00.20** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

### Беларусь 2

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія).
**10.15** Беларуская кухня.
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**12.00** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 1-я - 3-я серыі.
**14.50** Імперыя песні.
**15.20** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**16.30** Вышэй за дах.
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія).
**18.55** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 4-я серыя.
**19.50** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**22.00** КЕНО.
**22.05** Тэлебарометр.
**22.10** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.20** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**00.15** «Край белавежскі». Дак. фільм.

### Беларусь 3

**07.20** «Дабрананак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Плошча мастацтваў». Кампазітар Андрэй Мдзівані.
**08.50** «Цуды прыроды». Патагонія, Венгрыя. Беліз. Новая Зеландыя.
**09.20** «Наша спадчына». Эпоха класіцызму і рамантызму.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.30** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**11.00** Серыял. «Доктар Жывага». 8 серыя.
**11.45** «Калейдаскоп».
**11.50** «Год у гісторыі».
**12.05** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Любові Шэлег.
**12.35** «Зімні дуб». Кароткаметражны фільм.
**12.55** «Аляксандр Мядзведзь». Чалавек-легенда. Дакументальны фільм пра трохразовага чэмпіёна Алімпійскіх гульняў.
**13.25** «Скарбніца Гарадзеншчыны».
**13.50** «Пейзажы скрозь час». Ван Гог у Сен-Рэмі дэ Праванс.
**14.20** «Карані».
**14.45** «Лабірынты». Катранская пушча.
**15.15** «Гарачыя дзянёчкі». Мастацкі фільм.
**16.45** «Палескі пачастунак».
**16.55** «Настальжы». Жыццё і творчасць заслужанай артысткі Беларусі Л.Румянцавай.
**17.30** «Зямля, на якой нам жыць...» Гістарычныя помнікі Беларусі.
**18.00** «Музеум». Партрэты роду Завішаў.
**18.15** «Майстры і чаляднікі». Кераміка.
**18.45** «Кніга лёсаў». Гаўрыіл Вашчанка. Такі, як ёсць. Дакументальны фільм.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.45** Серыял. «Доктар Жывага». 9 серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.40** «Дыя@блог». «Пра літаратуру».
**22.05** «Разведчыкі». Мастацкі фільм.
**23.20** «Святло далёкай зоркі». Памяці паэтэсы Любові Шэлег.
**23.50** «Калейдаскоп».
**23.55** «Год у гісторыі».

### МИР

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**07.15** Праграма «Агульны інтарэс».
**08.15** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**08.40** Маст. фільм «Азазель».
**11.30** Праграма «Зроблена ў СССР».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.05** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Саюзнікі».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Тэлесерыял «Хакейныя гульні».
**02.05** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.45** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

### НТВ

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.08** Цуд тэхнікі.
**08.43, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.58** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15, 21.23, 22.10** Марскія д'яблы.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37** Дзікі-3.
**01.16** Паверх.

### БЕЛСАТ tv

**07.00, 09.20, 12.25, 14.50, 23.30, 01.55** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35, 14.00** Асабісты капітал.
**08.55, 14.25, 01.30** Аб'ектыў.
**09.40, 15.10** Відзьмо-невідзьмо.
**10.10, 15.40** Два на два (тэледыскусія): Беларускае праваслаўе ў цэню Масквы.
**10.40, 16.10** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**10.50** «Дом», серыял: 24 серыя.
**16.20** «Дом», серыял: 24 серыя.
**17.50** Дакументальная гадзіна: «Цэнтральная Еўропа выходзіць на свабоду», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.35** Над Нёманам (тэлечасопіс).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 02.15** Рэмарка.
**22.10** «Лонданцы», серыял: 7 серыя.
**23.00** «Людскія справы».
**01.10** Над Нёманам (тэлечасопіс).

## 26 ЛЮТАГА, СЕРАДА

**1 Беларусь**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.15** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыханне».
**12.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Адмысловы рэпартаж.
**19.40, 23.55** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыханне».
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Актуальнае інтэрв'ю.
**00.30** Дзень спорту.
**00.45** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**ОНТ**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** «Наша раніца».
**09.05** Жыць здорава!
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05, 13.05, 16.10, 18.15, 21.00** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.10** Яны і мы.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.20** Смешнае і яшчэ смешней.
**18.50** Хай кажуць.
**20.00** Час.
**21.05, 22.15** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**23.20** Вострасюжэтны фільм «Чужы 4: Уваскрашэнне».
**01.15** Начныя навіны.

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Мінск і мінчане».
**13.50** Фільм «Свята пад замком» (Расія).
**15.25** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХораШоў».
**20.20** Фільм «Гісторыя Уэндэла» (ЗША - Германія, 2005 г.).
**22.15** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**23.55** «Дабро пажаліцца».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

**2 Беларусь**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія). Заключная серыя.
**10.15** «Пад грыфам «Вядомыя».
**10.50** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**12.00** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 4-я серыя.
**13.10** «Зацішша» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**15.35** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**16.40** Рэпарцёр.
**17.30** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «План Б» (Расія). Заключная серыя.
**18.55** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**20.50** Рэальны свет.
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** «Спортлато 5 з 36».
**21.30** КЕНО.
**21.35** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). Заключныя серыі.
**22.35** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА. 1/8 фіналу. Прамая трансляцыя.
**00.40** Футбол. Ліга Чэмпіёнаў УЕФА.

**3 Беларусь**

**07.20** «Дабраранак.
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Галасы з мінулага».
**08.15** «Год у гісторыі».
**08.30** «Свет прыроды». На берагах Вялікага канала.
**09.00** «Аляксей Саўрасаў». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць рускага мастака-перадзвіжніка.
**09.20** «Найменні і вобразы». Саломка.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.20** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**10.50** Серыял. «Доктар Жывага». 9 серыя.
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.40** «Галасы з мінулага».
**11.50** «Год у гісторыі».
**12.00** «Свято далёкай зоркі». Памяці пісьменніка і літаратурнага крытыка Уладзіміра Карпава.
**12.30** «Дзелавыя людзі». Герой капіталістычнай працы.
**12.50** «Зроблена!» Кінавытворчасць.
**13.15** «Рэчавы доказ». Чугунны сведка. Дак. фільм пра пачатак валадарання Пятра І.
**13.45** «Палескі пачастунак». Юшка.
**14.00** «Шастаковіч буйным планам. Партрэт». Дак. фільм пра вялікага кампазітара ХХ стагоддзя Дзмітрыя Шастаковіча.
**15.00** «Сямейны альбом». Сям'я Карачун.
**15.15** «Разведчыкі». Мастацкі фільм.
**16.30** «Лабірынты». Паэтэса Алаіза Пашкевіч, вядомая пад псеўданімам Цётка.
**16.55** «Цуды прыроды». Ізраіль.
**17.20** «Камертон». Гітарыст, народны артыст Расіі Аляксей Кузняцоў.
**17.50** «Росчырк часу». Бернардзінскія кляштары.
**18.05** «Карані».
**18.30** «Скарбніца Берасцейшчыны». Моц духу. Сучасная Брэсцкая крэпасць.
**19.00** «Незнаёмая песня». Кароткаметражны фільм.
**19.30** «Калейдаскоп».
**19.35** «Галасы з мінулага».
**19.45** Серыял. «Доктар Жывага». 10 серыя.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.40** «Дыя@блог». «Пра прыгожае».
**22.05** «Чаканне палкоўніка Шалыгіна». Мастацкі фільм.
**23.30** «Свято далёкай зоркі». Памяці пісьменніка і літаратурнага крытыка Уладзіміра Карпава.
**23.55** «Калейдаскоп».
**00.05** «Галасы з мінулага».
**00.10** «Год у гісторыі».

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**09.10** Маст. фільм «Стацкі дараднік».
**11.30** Праграма «Любімыя акцёры».
**12.00** Навіны Садружнасці.
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.00** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці.
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці.
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці.
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Сакрэтныя матэрыялы».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Маст. фільм «Залезь на Месяц».
**02.00** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.40** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

**НТВ**

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.09** Цуд тэхнікі.
**08.43, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.58** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.37, 20.15, 20.48, 21.24, 22.10** Марскія д'яблы.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.37, 00.30** Дзікі-3.
**01.15** Паверх.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.20, 14.45, 23.55, 02.15** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.35** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**08.55, 14.20** Аб'ектыў.
**09.40** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.10** Відзьмо-невідзьмо.
**10.35, 16.00** Моўнік (лінгвістычная праграма): Зняважаная мова зямлі.
**10.50, 16.15** Назад у будучыню.
**11.00** «Людскія справы».
**11.35, 17.10** «Сенсацыі ХХ стагоддзя», серыял: «Вырашальны ўдар».
**14.00** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**15.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.30** Відзьмо-невідзьмо.
**16.25** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**16.40** «Людскія справы».
**18.00** «Лонданцы», серыял: 7 серыя.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00, 19.30** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45, 02.35** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?
**22.10** «Парадокс», серыял: 8 серыя.
**22.50** Невядомая Беларусь: «Кантрабандысты», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**23.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**01.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**01.50** Аб'ектыў.

## 27 ЛЮТАГА, ЧАЦВЕР

**1 Беларусь**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Джамайка».
**11.00** Меладрама «Другое дыханне».
**12.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Серыял «Джамайка».
**17.35** Беларуская часіна.
**19.20** Сфера інтарэсаў.
**19.40, 00.00** «Зона Х». Крымінальныя навіны.
**19.55** Меладрама «Другое дыханне».
**21.00** Панарама.
**21.45** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**23.45** Сфера інтарэсаў.
**00.35** Дзень спорту.
**00.50** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**ОНТ**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Жыць здорава!
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** У наш час.
**12.10** Яны і мы.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** Сам-насам з усімі.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Зразумець. Прабачыць.
**16.55** Давай пажэнімся!
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Смешнае і яшчэ смешней.
**18.50** Хай кажуць.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».
**22.15** Прэм'ера. Шматсерыйны дэтэктыў «Чорныя коткі».

**СТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** Дзённік «ХораШоў».
**09.05** «Вам і не снілася».
**10.05** «Дабро пажаліцца».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** Дзённік «ХораШоў».
**11.40** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Прыгоды дылетанта».
**13.50** Фільм «Гісторыя Уэндэла» (ЗША - Германія, 2005 г.).
**15.40** Дзённік «ХораШоў».
**15.45** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** Дзённік «ХораШоў».
**17.35** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Вам і не снілася».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Фільм «Вавілон-5» (ЗША, 1998 г.).
**22.05** «Глядзець усім!».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**23.55** «Аўтапанарама».
**00.15** «Баец. Нараджэнне легенды». Серыял.

**2 Беларусь**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Кат» (Расія). 1-я серыя.
**10.10** Заўтра - гэта мы!
**10.35** Дэтэктыўная камедыя «Людзі Шпака».
**11.40** Імперыя песні.
**12.10** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). 5-я і 6-я серыі.
**14.10** «Шэльма» («Беларусьфільм»).
**15.25** Камедыйны серыял «Інтэрны» (Расія). Заключныя серыі.
**16.30** Аўтабатл.
**17.05** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Кат» (Расія). 1-я серыя.
**18.55** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). Заключныя серыі.
**20.55** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Прамая трансляцыя. У перапынку: **21.50** «КЕНО».
**22.55** Тэлебарометр.
**23.00** Футбол. Ліга Еўропы. 1/16 фіналу. Прамая трансляцыя.

**3 Беларусь**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Кола». Кароткаметражны фільм.
**08.45** «Камертон». Дзмітрый Салярцінскі.
**09.15** «Адлюстраванні». Мадоны Максіма Багдановіча.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.25** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**10.50** Серыял. «Доктар Жывага». 10 серыя.
**11.35** «Калейдаскоп».
**11.45** «Год у гісторыі».
**11.55** «Свято далёкай зоркі». Памяці беларускай спявачкі Рыты Млодак.
**12.25** «Свет прыроды». Каля дрэва дружбы трох народаў.
**12.55** «Карані».
**13.20** «Наша спадчына». Жалудоцкі палац. Часткі 1-я і 2-я.
**13.50** «Масква-Мінск. Кінатранзіт». Ларыса Шапіцька. «Узыходжанне».
**14.15** «Найменні і вобразы». Творчасць І. Мамановіч і М. Кулецкай - роспіс па шкле.
**14.30** «Скарбніца Віцебшчыны». Маёнтак мастака І. Рэпіна.
**14.55** «Музеум». Слуцкія паясы.
**15.15** «Чаканне палкоўніка Шалыгіна». Мастацкі фільм.
**16.35** «Росчырк часу». Мастак Леў Алімаў.
**16.50** «Цуды прыроды». Арктыка. Канада.
**17.15** «Палескі пачастунак». Лекавая сумесь.
**17.30** «Летуценні Я.Драздовіча». Дак. фільм пра вядомага беларускага мастака.
**18.00** «Дзелавыя людзі». Гістарычныя сталіцы дзелавой ініцыятывы.
**18.20** «Давід Ойстрах, народны артыст?» Дакументальны фільм пра яркага прадстаўніка савецкай скрыпічнай школы.
**19.35** «Калейдаскоп».
**19.40** Серыял. «Доктар Жывага». 11 серыя, заключная.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.40** «Дыя@блог». «Пра вечнае».
**22.05** «На спіне ў чорнага ката». Мастацкі фільм.
**23.35** «Свято далёкай зоркі». Памяці беларускай спявачкі Рыты Млодак.
**00.00** «Калейдаскоп».
**00.10** «Год у гісторыі».

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15, 09.00** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**10.00** Маст. фільм «Мора сцюдзёнае».
**11.30** Праграма «Дыяспары».
**12.00** Навіны Садружнасці .
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.00** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці .
**15.20** Ток-шоў «Слова за слова».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці .
**18.20** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**21.00** Навіны Садружнасці .
**21.20** Тэлесерыял «Чорны крумкач».
**23.05** Праграма «Злачынства і пакаранне».
**23.35** Ток-шоў «Слова за слова».
**00.25** Маст. фільм «Мора сцюдзёнае».
**02.00** Тэлесерыял «Заручальны пярсцёнак».
**03.40** Тэлесерыял «Монтэкрыста».

**НТВ**

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.11** Цуд тэхнікі.
**08.39, 09.37, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**11.00** Да суда.
**11.58** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.12** Справа густу.
**15.39** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.32** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.46, 20.15, 21.27, 22.10** Марскія д'яблы.
**23.10** Сёння. Вынікі.
**23.38, 00.25** Дзікі-3.
**01.17** Паверх.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.25, 14.50, 00.05, 02.30** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Маю права (юрыдычная праграма).
**08.55, 14.25** Аб'ектыў.
**09.40** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?
**10.00** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**10.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**11.00** «Парадокс», серыял: 8 серыя.
**11.45** Невядомая Беларусь: «Кантрабандысты», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**12.15** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**14.00** Маю права (юрыдычная праграма).
**15.10** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?
**15.30** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**15.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**16.30** «Парадокс», серыял: 8 серыя.
**17.15** Невядомая Беларусь: «Кантрабандысты», дак. фільм, 2014 г., Беларусь.
**17.45** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Ян Баршчэўскі.
**17.50** «Час гонару», серыял: 74 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Сальда (эканамічная праграма).
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** Рэпартэр.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Два на два (тэледыскусія).
**22.20** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**23.20** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 9 серыя.
**01.40** Рэпартэр.
**02.05** Аб'ектыў.
**02.50** Два на два (тэледыскусія).

## 28 ЛЮТАГА, ПЯТНІЦА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.45** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**11.00** Меладрама «Другое дыханне» (Расія).
**12.10** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».
**13.10** Вострасюжэтны серыял «Выспа непатрэбных людзей» (Расія - Украіна).
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Меладраматычны серыял «Джамайка» (Украіна - Расія).
**17.20** Дакументальны цыкл «Без права на дубль» (Расія).
**18.10** Таямніцы следства.
**19.20, 00.15** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**19.55** Меладрама «Другое дыханне» (Расія). Заключная серыя.
**21.00** Панарама.
**21.45** Нашы.
**21.55** Авантурная камедыя «Фартуна Вегаса» (ЗША - Вялікабрытанія - Францыя).
**23.45** Журналісцкае расследаванне.
**01.00** Дзень спорту.
**01.15** Дак. серыял «Містычныя гісторыі».

**Н**

**06.00, 06.30, 07.00, 07.30, 08.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05, 07.05, 08.05** Наша раніца.
**09.05** Жыць здорава! .
**10.25** Кантрольны закуп.
**11.05** Навіны спорту .
**11.10** У наш час.
**12.10** Яны і мы.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** Добрага здароўейка!
**13.55** Модны прысуд.
**15.00** АНТ прадстаўляе: Зваротны адлік.
**15.30** Прэм'ера АНТ. Вучыцца жыць.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Фільм «Дзеці панядзелку».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** Чакай мяне. Беларусь .
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** АНТ прадстаўляе: Вячэрні Мінск.
**22.20** Здабытак Рэспублікі.
**00.30** Камедыя «Вялікі».
**02.20** Начныя навіны .

**ТВ**

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Вам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Вовачка-2». Камедыйны серыял.
**12.05** «Сямейныя драмы».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Фільм «Вавілон-5» (ЗША, 1998 г.).
**15.35** «Не хлусі мне!».
**16.50** «Следакі».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** «Такі лёс».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** Дзённік «ХораШоў».
**20.20** Фільм «Паліцэйская акадэмія» (ЗША, 1984 г.).
**22.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час». Працяг.
**23.50** «Глядзець усім!».
**00.45** «Вялікая гульня». Покер.
**01.30** Фільм «Касабланка. Гняздо шпіёнаў» (Францыя - Італія - Іспанія, 1963 г.).

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Кат». 2 серыя.
**10.10** Цела чалавека.
**10.55** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.30** Футбол. Чэмпіянат свету 2014.
**12.00** Біяграфічная драма «Чкалаў» (Расія). Заключная серыі.
**14.05** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Рыжык у Залюстаркоўе». 1-я і 2-я серыі.
**16.20** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**16.50** «Імперыя песні». Народнае караоке-шоў.
**17.55** Дэтэктыўны серыял «Кат» (Расія). 2-я серыя.
**19.05** Рамантычны трылер «Змярканне».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Бітва экстрасэнсаў.
**22.40** Рэпарцёр.
**23.25** «Comedy woman». Гумарыстычнае шоў (Расія).
**00.20** Хакей. КХЛ.

**3 БЕЛАРУСЬ**

**07.20** «Дабраранак».
**07.50** «Хачу ўсё ведаць!».
**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Год у гісторыі».
**08.20** «Карані».
**08.50** «Халады ў пачатку вясны». Кароткаметражны фільм.
**09.20** «Росчырк часу». Кніга Дамбавецкага. Пра Магілёўскую губернію ў XIX стагоддзі.
**09.35** Серыял. «Мегрэ».
**10.25** «Сіла веры».
**10.55** Серыял. «Доктар Жывага». 11-я серыя, заключная.
**11.40** «Калейдаскоп».
**11.50** «Год у гісторыі».
**12.00** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Анатоля Тычыны.
**12.30** «Цуды прыроды». Манголія. Гобі. Іярданія.
**13.00** «Адлюстраванні». Францішка Урсула Радзівіл.
**13.25** «Пейзажы скрозь час». Этрэта.Францыя.
**13.50** «Я кахаю цябе...» Вершы Н. Мацяш.
**14.05** «Хлапок адной далоні». Дак. фільм пра мастацкага кіраўніка Дзяржаўнага ансамбля танца Рэспублікі Беларусь Валянціна Дудкевіча.
**14.35** «Скарбніца Берасцейшчыны». Архітэктурнае Палессе.
**15.00** «Палескі пачастунак». Парсючок.
**15.15** «На спіне ў чорнага ката». Мастацкі фільм.
**16.45** «Імгненні музейнай цішыні». Дакументальны фільм.
**17.05** «В барабан не бью без толку...» Дакументальны фільм пра гук у кіно.
**17.50** «Свет прыроды». Воўк па мянушцы Тэр.
**18.05** «Цуд-волаты». Дакументальны фільм пра ўзбраенне і абмундзіраванне рускай арміі пачатку XIX стагоддзя.
**18.35** «Майстры і чаляднікі». Разьбярства.
**19.00** «Калейдаскоп».
**19.10** «Беспасажніца». Мастацкі фільм.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Серыял. «Мегрэ».
**21.45** «Сіла веры».
**22.10** «Зімачка». Юбілейны канцэрт, прысвечаны 40-годдзю ансамбля «Харошкі».
**23.45** «Святло далёкай зоркі». Памяці мастака Анатоля Тычыны.
**0.10 «Калейдаскоп».**
**0.15 «Год у гісторыі».**

**МИР**

**05.00** Інфармацыйны канал «180 хвілін».
**08.15** Тэлесерыял «Нямы сведка».
**09.00** Тэлесерыял «Нямы сведка» (працяг).
**10.00** Маст. фільм «Жыве такі хлопец».
**11.30** Праграма «Сардэчна запрашаем».
**12.00** Навіны Садружнасці .
**12.20** Тэлесерыял «Чужыя памылкі».
**14.00** Дак. фільм «У свеце мінулага».
**15.00** Навіны Садружнасці .
**15.20** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**16.10** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**18.00** Навіны Садружнасці .
**18.20** Тэлесерыял «Дыяменты на дэсерт».
**21.00** Маст. фільм «Скура саламандры».
**22.55** Маст. фільм «Даспехі Бога-2: Аперацыя Кондар».
**00.00** Маст. фільм «Даспехі Бога-2: Аперацыя Кондар» (працяг).
**00.40** Праграма «Прыгоды Македонскай».
**00.55** Тэлесерыял «Монтэкрыста».
**03.00** Маст. фільм «Недарэчы».

**НТВ**

**06.07, 07.08** НТБ раніцай.
**08.11** Цуд тэхнікі.
**08.44, 10.19** Вяртанне Мухтара-2.
**10.00, 13.00, 16.00, 19.00** Сёння.
**10.58** Да суда.
**11.57** Суд прысяжных.
**13.25** Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт.
**14.24** Справа лекараў.
**15.13** Справа густу.
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.37** Гаворым і паказваем.
**18.33** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.36, 20.15, 21.21, 22.10, 23.55** Марскія д'яблы.
**00.48** Авіятары.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20, 12.25, 14.50, 23.55, 02.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**08.55** Аб'ектыў.
**09.40** Два на два (тэледыскусія).
**10.15** Маю права (юрыдычная праграма).
**10.35** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 9 серыя.
**11.20** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**13.55** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**14.25** Аб'ектыў.
**15.10** Два на два (тэледыскусія).
**15.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**16.00** «Фальшываманетнікі. Вяртанне «Зграі», серыял: 9 серыя.
**16.50** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**17.50** «Ранча», серыял: 42 серыя.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгода ката Філімона».
**19.00** Навіны.
**19.10** Агляд медыяў.
**19.20** Гарачы каментар.
**19.30** Навіны.
**19.50** Дэвайс.
**20.10** Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Гарачы каментар.
**20.30** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Размова дня.
**21.45** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**22.25** «Дом», серыял: 25 серыя.
**01.25** ПраСвет.
**01.55** Аб'ектыў.
**02.40** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).

## 1 САКАВІКА, СУБОТА

**1 БЕЛАРУСЬ**

**06.55** Існасць.
**07.20** Рамантычная драма «Рабыня кахання» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Медычныя таямніцы.
**09.35** Камедыйны серыял «Выратаваць боса» (Расія).
**11.30** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.10** Клуб рэдактараў.
**12.55** Здароўе.
**13.45** Журналісцкае расследаванне.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Без права на дубль».
**16.35** Давярай і правярай.
**17.05** Нашы.
**17.20** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Таямніца Мунакра» (Венгрыя - Вялікабрытанія - Францыя).
**19.15** Рамантычная камедыя «Два дні» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Крымінальны баявік «Прафесіянал» (ЗША).
**23.45** Дзень спорту.
**23.55** Камедыйны серыял «Выратаваць боса» (Расія).

**Н**

**07.00, 08.00** Суботняя раніца.
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Смешарыкі. Новыя прыгоды.
**09.20** Здароўе.
**10.20** Смак.
**11.00** Ідэальны рамонт.
**11.55** Разумніцы і разумнікі.
**12.40** Фільм «Па вуліцах камоду вадзілі».
**14.10** Камедыя «Аперацыя Ы і іншыя прыгоды Шурыка».
**16.00** Нашы навіны .
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** АНТ прадстаўляе: Бацькоў у школу!
**17.15** Адзін супраць усіх.
**18.05** АНТ прадстаўляе: фільм «Я – Сэм».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** Сёння ўвечар.
**22.50** Прэм'ера. Фільм «Практыкаванні ў цудоўным».
**00.40** Музычная камедыя «Рэцэпт яе маладосці».

**ТВ**

**06.00** «Студэнты». Серыял.
**07.40** Фільм «Паліцэйская акадэмія» (ЗША).
**09.30** Дзённік «ХораШоў».
**09.35** «Чыстая праца».
**10.30** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Дзённік «ХораШоў».
**12.45** Фільм «Бабек» (1979 г.). 1-я серыя.
**14.10** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.35** Дзённік «ХораШоў».
**17.40** «Дзіўная справа».
**18.35** СТБ прадстаўляе: інтэлект-шоў «Разумней не прыдумаеш».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** СТБ прадстаўляе: «ХораШоў». Паўфінал. «Пра што спяваюць жанчыны».
**21.15** Фільм «Герцагіня» (Вялікабрытанія - Італія - Францыя - ЗША, 2008 г.).
**23.20** «Зорны рынг. Новы сезон.
**00.35** Фільм «Фэй Грым» (ЗША - Германія, 2006 г.).

**2 БЕЛАРУСЬ**

**07.30** Камедыйны серыял «Ластаўчына гняздо» (Украіна).
**08.30** Тэлебарометр.
**08.35** Прыгодніцкі мультсерыял «Клуб Вінкс. Школа чараўніц» (Італія).
**09.50** Беларуская кухня.
**10.30** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**12.35** Бітва экстрасэнсаў.
**13.40** Вышэй за дах.
**14.15** Гумарыстычная праграма «Жаночая ліга. Хлопцы. Грошы. Каханне» (Расія).
**14.40** Прыгодніцкі фільм-фэнтэзі «Рыжык у Залюстаркоўе». 1-2 серыі.
**17.00** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**18.00** Імперыя песні.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.05** Забаўляльная шоў-праграма «СуперІнтуіцыя. Каханне» (Расія).
**21.05** КЕНО.
**21.10** Тэлебарометр.
**21.15** Рэальны свет.
**21.45** Камедыйны серыял «Інтэрны».
**23.40** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**00.35** Меладрама «Канец рамана» (Вялікабрытанія).

**3 БЕЛАРУСЬ**

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Таямніца душы».
**08.35** «Сакрэт фірмы».
**09.00** «Беспасажніца». Мастацкі фільм.
**10.20** «Ілюзіён». Дакументальны фільм пра архітэктуру Масквы 30-х-50-х гадоў.
**10.40** «Наперад у мінулае».
**11.10** «Калейдаскоп».
**11.15** «Плошча мастацтваў». Творчасць заслужанай артысткі Беларусі Зоі Асмалоўскай.
**11.40** «Жалезныя майстры». Дак. фільм пра майстроў кавальскай справы.
**11.55** «Золата Грышына». Дакументальны фільм пра першага алімпійскага чэмпіёна па фрыстайлу.
**12.30** «Паданне пра Тураў». Дак. фільм.
**12.55** «Цябе кахаю, табе і веру...» Памяці Сяргея Ясеніна.
**13.25** «Калейдаскоп».
**13.30** «Радавод». Абрад зазывання вясны.
**13.55** «Сцежкай ваўка». Дакументальны фільм пра складаныя ўзаемаадносіны чалавека і ваўка.
**14.35** «Ваенна-палявая пошта». Дак. фільм.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.10** «Востраў». Творчасць расійскага рэжысёра Паўла Лунгіна.
**15.30** «Зімачка». Юбілейны канцэрт, прысвечаны 40-годдзю ансамбля «Харошкі».
**17.00** «Калейдаскоп».
**17.10** «Уся каралеўская раць». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** Сусветнае кіно. «Настрадамус».
**22.45** «Эпоха». Радзівілы. Нясвіжскія уладанні.
**23.40** «Калейдаскоп».

**МИР**

**05.00** Маст. фільм «Фантазіі Вяснухіна».
**07.20** Мультфільмы.
**08.00** Праграма «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.15** Праграма «Эксперыментатары».
**08.30** Праграма «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00** Навіны Садружнасці .
**09.10** Праграма «Любімыя акцёры».
**09.35** Маст. фільм «Дэрсу Узала».
**12.05** Тэлесерыял «Дыяменты на дэсерт».
**15.00** Навіны Садружнасці .
**15.10** Тэлесерыял «Загадкавыя забойствы Агаты Крысці».
**18.00** Тэлесерыял «Загадкавыя забойствы Агаты Крысці»(працяг).
**20.10** Навіны Садружнасці .
**20.50** Маст. фільм «М+Ж».
**22.40, 00.00** Маст. фільм «Шарада».
**00.45, 01.40** Тэлесерыял «Загадкавыя забойствы Агаты Крысці».
**02.25** Маст. фільм «Дэрсу Узала».

**НТВ**

**06.28** Агент адмыслоўга прызначэння-4.
**08.00, 10.00, 13.00, 16.00** Сёння.
**08.19** Агляд.
**08.50** Іх норавы.
**09.26** Справа густу.
**10.20** Галоўная дарога.
**10.52** Кулінарны паядынак.
**11.54** Кватэрнае пытанне.
**13.20** Я худнею.
**14.19** Відэастужка НТБ.
**15.07** Справа цёмная.
**16.17** Выратавальнікі.
**16.47** Следства вялі...
**17.36** Вочная стаўка.
**18.29** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Цэнтральнае тэлебачанне.
**19.53** Новыя рускія сенсацыі.
**20.56** Ты не паверыш!
**21.57, 22.45, 23.44, 00.30, 01.19** Бальзакаўскі ўзрост ці ўсе мужыкі сво... 5 гадоў пасля.

**БЕЛСАТ tv BELSAT**

**07.00, 09.20** Інфармацыйна-публіцыстычны блок.
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.45** Зоры не спяць.
**10.20** Казкі для дзетак: «Пінгвінік Пік-Пок», «Прыгоды Ціўкі», «Занатоўкі натураліста».
**10.45** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 1 серыя.
**11.10** Два на два (тэледыскусія).
**11.45** Асабісты капітал.
**12.05** Відзьмо-невідзьмо.
**12.35** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнавачая праграма): Ян Баршчэўскі.
**12.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**13.15** МакраФон: «Рок па вакацыях–2008».
**14.00** «Лонданцы», серыял: 7 серыя.
**14.50** «Амаль сужэнцы», дак. фільм, 2010 г., Італія–Турцыя.
**15.50** «Час гонару», серыял: 74 серыя.
**16.40** «Дом», серыял: 25 серыя.
**18.10** Беларусы ў Польшчы.
**18.25** ПраСвет.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Прыгоды і паходы».
**19.05** Моўнік (лінгвістычная праграма): Так гавораць на Падляшшы.
**19.20** Назад у будучыню.
**19.30** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 5 серыя.
**20.20** Зона «Свабоды».
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.50** Суботні сеанс: «Раз'юшаныя нябёсы», трымценнік, 2001 г., ЗША.
**23.30** Дакументальная гадзіна: «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**01.00** Аб'ектыў.

## 2 САКАВІКА, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Лірычная камедыя «Прыходзьце заўтра» (СССР).
**08.50** Слова мітрапаліта Паўла.
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.40** Камедыйны серыял «Выратаваць боса» (Расія).
**11.30** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.10** Каробка перадач.
**13.45** Таямніцы следства.
**14.25** «XXL WOMAN TV». Жаночы часопіс.
**15.15** Твой горад.
**15.30** БеларусьLIFE.
**15.55** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**17.00** Камедыя «Прапанова» (ЗША).
**19.05** Меладрама «Пара гнядых» (Расія).
**21.00** Галоўны эфір.
**21.55** Навіны надвор'я.
**22.15** Баявік «Аднойчы ў Мексіцы» (ЗША).
**00.15** Камедыйны серыял «Выратаваць боса» (Расія).

### ОНТ

**07.00** Нядзельная раніца .
**08.00, 09.00** Нашы навіны .
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** Смешарыкі. ПІН-код.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.45** Фазэнда.
**11.20** Прэм'ера. Колькі каштуе кінуць піць.
**12.20** Брэйн-рынг.
**13.30** Смешнае і яшчэ смешней.
**14.10** Камедыя «Дыяментавая рука».
**16.00** Нашы навіны .
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** фільм «Прэстыж».
**18.50** Я люблю Беларусь!
**20.00** Контуры.
**21.05** Клуб Вясёлых і Знаходлівых. Вышэйшая ліга.
**23.20** АНТ прадстаўляе: фільм «Артыст».
**01.10** Pink Floyd: Гісторыя Wish You Were Here.

### СТВ

**06.15** Фільм «Нябесны ціхаход» (СССР, 1945 г.).
**07.40** «100 адсоткаў».
**08.10** Фільм «Таце зноў 17» (ЗША, 2009 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Максім Перапяліца» (СССР, 1955 г.).
**14.30** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Шэрлак Холмс» (ЗША - Германія, 2009 г.).
**23.05** СТБ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**00.20** «СТБ-спорт».
**00.30** Фільм «Праверка на дарогах» (СССР, 1971 г.).
**02.10** «Бітва цывілізацый».

### Беларусь 2

**06.20** «Студэнты». Серыял.
**08.00** Фільм «Герцагіня» (Вялікабрытанія - Італія - Францыя - ЗША, 2008 г.).
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Бабек» (1979 г.). 2-я серыя.
**14.05** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** Канцэрт М.Задорнава.
**17.50** «Аўтапанарама».
**18.20** СТБ прадстаўляе: вячэрняе шоў «На тым жа месцы ў той жа час».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Псіхааналітык» (ЗША, 2009 г.).
**22.45** Фільм «Спадар ніхто» (Францыя - Германія - Канада - Бельгія, 2009 г.).
**01.10** «Вялікія таямніцы Апакаліпсісу».

### Беларусь 3

**08.00** «Калейдаскоп».
**08.05** «Уся каралеўская раць». Мастацкі фільм. 1-я - 3-я серыі.
**11.30** «Эпоха». Радзівілы. Нясвіжскія ўладанні.
**12.25** «Структура вакуума». Навукова-папулярны фільм.
**12.45** «Калейдаскоп».
**12.55** «Беларускі народны каляндар. Масленіца». Дакументальны фільм.
**13.20** «Андрэй Грамыка. Гігант, якому ўдалося выжыць». Дакументальны фільм пра жыццёвы шлях дыпламата і дзяржаўнага дзеяча СССР, ураджэнца Беларусі.
**14.15** «Нашы». Расціслаў Янкоўскі.
**14.30** «Сто скур незабітых мядзведзяў». Дакументальны фільм пра экспедыцыю пад кіраўніцтвам Георгія Ушакова на архіпелаг Паўночная Зямля.
**15.00** «Калейдаскоп».
**15.05** «Жыццё - праклятая роля». Дакументальны фільм пра жыццё і творчасць народнага артыста РСФСР Юрыя Багатырова.
**15.55** «У цэнтры Еўропы». Дак. фільм.
**16.15** «Наперад у мінулае».
**16.45** Дзіцячы фільм. «Без сына не прыходзь!».
**18.00** «Культпрасвет».
**18.35** Сусветнае кіно. «Настрадамус».
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Разам са сваёй краінай». Канцэрт.
**22.00** «Культпрасвет».
**22.30** «Стары дом». Спектакль Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра ім. Якуба Коласа.
**00.40** «Калейдаскоп».

### МИР

**05.00** Маст. фільм «Па сакрэце ўсяму свету».
**07.10** Мультфільмы.
**08.05** Праграма «Ведаем рускую».
**09.00** Навіны Садружнасці .
**09.10** Праграма «Аэрасвет».
**09.25** Праграма «Прыгоды Македонскай».
**09.35** Праграма «Са свету па нітцы».
**10.00** Маст. фільм.
**12.35** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**13.10** Канцэрт «Расія ў песні».
**15.00** Навіны Садружнасці .
**15.10** Тэлесерыял «Прыватная замова».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.35** Тэлесерыял «Прыватная замова».
**23.30** Маст. фільм «Жыве такі хлопец».
**00.00** Маст. фільм «Жыве такі хлопец» (працяг).
**01.10** Тэлесерыял «Загадкавыя забойствы Агаты Крысці».
**02.50** Маст. фільм «М+Ж».

### НТВ

**06.28** Агент адмысловага прызначэння-4.
**08.00** Сёння.
**08.19** Медыцынскія таямніцы.
**08.49** Іх норавы.
**09.24** Ямо дома!
**10.00** Сёння.
**10.20** Дачны адказ.
**11.25** Паедзем паямо.
**11.57** Цуд тэхнікі.
**12.29** Першая перадача.
**13.00** Сёння.
**13.22** Мастацкі фільм НТБ.
**15.05** Справа цёмная.
**16.00** Сёння.
**16.17** І зноў добры дзень!
**16.42** Следства вялі...
**17.33** Вочная стаўка.
**18.27** Надзвычайнае здарэнне. Агляд за тыдзень.
**19.00** Сёння. Выніковая праграма.
**19.50** Цёмны бок.
**20.46, 21.35, 22.33, 23.17** Мама ў законе.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Прыгоды і паходы».
**07.45** «Тры шалёныя нулі», серыял: 6 серыя.
**08.15** Зона «Свабоды».
**08.50** Беларусы ў Польшчы.
**09.05** Маю права (юрыдычная праграма).
**09.25** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.55** 54 % (публіцыстычная праграма): Ці ёсць жыццё пасля 55-ці?.
**10.15** Рэпартэр.
**10.40** Невядомая Беларусь: «Найвышэйшая мера», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**11.15** Казкі для дзетак: «Прыгода ката Філімона», «Пацукі».
**11.50** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 1 серыя.
**12.15** «Тры шалёныя нулі», серыял: 6 серыя.
**12.45** Дакументальная гадзіна: «Лобатамія», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**14.15** «Парадокс», серыял: 8 серыя.
**15.00** «Раз'юшаныя нябёсы», трымценнік, 2001 г., ЗША.
**16.40** «Mad Men. Утрапёныя», серыял: 5 серыя.
**17.30** «Час гонару», серыял: 75 серыя.
**18.20** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.50** Калыханка для самых маленькіх: «Шчаслівы чалавек».
**18.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Тамаш Зан.
**19.10** Форум: Нам засталася спадчына...
**19.55** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.25** Дакументальная гадзіна: «Кропка апоры», дак. фільм, 2013 г., Польшча.
**21.30** Фільматэка майстроў: «Школа плоці», маст. фільм, 1998 г., Францыя.
**23.05** Зоры не спяць (культурніцкая праграма).
**23.40** Форум (ток-шоў): Нам засталася спадчына...

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Заслаўе | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 3000 руб., аднаго месяца — 12000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.

**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐ № ______ (вход, по карте отправки)

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739
УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|

Период подписки указывает абонент

Плательщик

Пеня ______
Кассир Всего ______

ПРОЦІСТАЯННЕ



# УКРАІНА: ВАЙНА ГРАМАДЗЯНСКАЯ

Алег НОВІКАЎ

**Чым больш абвастраецца ўкраінскі палітычны крызіс, тым больш ва ўсіх праяў эмоцый (у тым ліку, на жаль, і ў палітолагаў). Адпаведна, карцінка, якую яны прапануюць, атрымліваецца часцей за ўсё чорна-белай.**

Вельмі часта нават каментары асобаў, вядомых у свеце палітычных навук, нагадваюць своеасаблівыя дацзыбаа. Напрыклад, дырэктар Інстытуту трансфармацыі грамадства Алег Соскін аналізуе, як трэба здымаць з дахаў дамоў снайпераў Беркуту або перакрываць трасы. Адпаведна, палярныя і ацэнкі прычын эскалацыі, якая мела месца 18 лютага.

Нагадаем, што марш апазіцыі ў бок Вярхоўнай Рады закончыўся сутычкамі, па выніках якіх Беркут атакаваў Майдан.

Апазіцыйныя аналітыкі лічаць, што ва ўсім вінаватая ўлада. Так, Міхаіл Мінакоў, прэзідэнт Фонду якаснай палітыкі, сцвярджае: «18-га лютага Віктар Януковіч з сынамі і бліжэйшым асяроддзем вырашыў «па-хуткаму» ператварыць Майдан у Цяньаньмэнь. Дзеля тактычнага ўзмацнення пазіцый на перамовах з апазіцыяй, ён абраў горшы з магчымых стратэгічных варыянтаў. Горшы і для яго, і для краіны. Адданы навыкам выжывання ў крымінальным асяроддзі, украінскі прэзідэнт не здольны да стратэгічнага мыслення. Па ўсёй бачнасці, сямейны савет рашыўся на крайнія дзеянні дзеля дамінуючай пазіцыі ў перамовах».

А вось каментар ягонага візаві дырэктара Інстытута стратэгічнай палітыкі Юрыя Кочавенкі: «Абсалютна не спраўкаваны бессэнсоўны чарговы віток гвалту. Яго зараз нават не спрабуюць апраўдаць, кажучы «мянты першыя пачалі». У сённяшніх падзеях тон задаюць экстрэмісты, выкарыстоўваючы любую магчымасць для нагнятання і расхіствання сітуацыі. Для іх гэта лагічна, яны ствараюць спрыяльны для сябе палітычны клімат. А апазіцыйныя лідары не маюць магчымасці, як у пачатку пратэстаў, адмежавацца, назваўшы іх правакатарамі, вымушаныя падладжвацца пад падзеі, робячы выгляд, што ўсё ідзе па плане».

На гэтым кантрастным фоне выдзяляецца тэкст Яўгена Лешана ў інтэрнэт-выданні «Обозреватель». На яго думку, 18 лютага мела месца ўзаемная правакацыя: «Улада цудоўна ведала пра тое, чым закончыцца спроба штурму. Аднак дапусціла такі сцэнар, каб меці індульгенцыю на разгон Майдана. У сваю чаргу, апазіцыя ведала, што майданаўцы будуць ужываць гвалт, аднак хацела, каб свет пабачыў крывавага Януковіча. Вельмі важна зразумець, што на руках правадыроў украінскай дзяржавы і на руках правадыроў украінскай апазіцыі — ліпкія плямы аднаго і таго ж колеру. Усе яны — творцы адной крывавай правакацыі. І тыя, і другія 18 лютага стрымана пусцілі ў расход людзей — адны для захавання ўлады, другія — для прыходу да ўлады».

Адначасова акрамя дэбатаў наконт таго — хто вінаваты, з'явіліся і іншыя тэмы для абмеркавання. У кантэксце захопу на Захадзе Украіны вайсковых арсеналаў і знішчэння органаў МУС рознага кшталту нацыяналістычнымі парамілітарнымі структурамі, на Усходзе пачала актыўна абмяркоўвацца перспектыва магчымага падзелу Украіны. Папулярны адэскі аглядальнік Леў Вяршынін піша, што цяпер падзел ужо непазбежны. На яго думку, ва Украіне актыўна рэалізуецца лівійскі план, у якім роля Бенгазі (цэнтр паўстання супраць Кадафі) адводзіцца Львову.

Вяршынін піша: «У цяперашняй сітуацыі ўсялякія перамовы аб нейкім «палітычным урэгуляванні» перастаюць быць хоць колькі асэнсаванымі, паколькі ад тройкі лузераў, якія сядзяць у Кіеве, ужо нічога не залежыць. Кантроль над падзеямі явачным парадкам пераходзіць да тэрытарыяльных курбашы. Нескладана зразумець, што пры такім раскладзе любыя датэрміновыя выбары губляюць усялякі сэнс, нават і таму, што ні пра якую празрыстасць і законнасць працэдуры ў пяці заходніх абласцях не можа быць і гаворкі. Па сутнасці, першачарговай задачай бягучага моманту ёсць захаваць за сабой Кіеў (ачысціць, пакуль яшчэ магчыма) і замацавацца ў «не заражаных» абласцях, тэрмінова фармуючы групы падтрымкі, увесці надзвычайнае становішча — з правам агню на паразу».

Якія могуць быць напрамкі развіцця падзей? Блізкія да апазіцыі аналітыкі шмат кажуць пра тое, што Януковіч пасля 18 лютага згубіў шанс на тое, каб у будучыні заставацца ўкраінскім лідарам, і так ці інакш яго чакае ганебны фінал. На іх думку, народ ужо ніколі такога не прабачыць.

«Пакуль яшчэ дзеючы прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч не пазбегне міжнароднага суда, калі наогул здолее захаваць сваё жыццё ва ўмовах вайны з уласным народам. Мірнага вырашэння канфлікту больш не існуе. Без трыбунала ў Гаазе не абысціся. Украінская ўлада гэта разумее», — заявіў палітолаг Тарас Беразавец. На яго думку, у такой сітуацыі Януковіч пойдзе на паступовую капітуляцыю перад Крамлём.

А вось палітолаг Уладзімір Стус на партале «Хвіля» лічыць, што кампраміс яшчэ магчымы. Ён бачыць выхад у тэрміновым умяшальніцтве вялікіх дзяржаў: «Калі ЕС, ЗША, РФ, Кітай і іншыя знешнія добразычлівцы, сапраўды, хочуць дабра Украіне, то хопіць праводзіць бясконцыя і непублічныя кансультацыі, якія паступова ператвараюцца ў гандаль пад дыванам. Хопіць спрабаваць, карыстаючыся выпадкамі, распаўсюджваць свой уплыў на ўсю тэрыторыю Украіны. Лепшае, што могуць зрабіць знешнія сябры Украіны, — гэта патрабаваць рашэння ўнутранага крызісу дэмакратычным шляхам і даслаць як мага больш сваіх назіральнікаў на пазачарговыя выбары. Узгадненне даты датэрміновых выбараў здольнае не толькі істотна панізіць градус супрацьстаяння, і тым самым выратаваць дзясяткі жыццяў. Рашэнне ўнутранага крызісу дэмакратычным шляхам здольнае выратаваць і ўкраінскую эканоміку ад развалу і дэфолту. Гэта можа прывесці да ўлады не тэхнічны часовы ўрад, а ўрад з мандатам даверу з боку ўсяго народа Украіны».

Трэба таксама адзначыць і выказванні пра тое, што ніякі палітычнае рашэнне ва Украіне больш немагчымае. Быццам, канфрантацыя перайшла мяжу, за якой пачынаецца ўжо поўны хаос.

«Грамадзянская супольнасць палярызаваная, разрады энергіі ўжо глушаць крыкі з Майдана. Мяркуючы па вопыту папярэдніх спробаў пераваротаў, калі ўлада не скарыстае сілу і не пойдзе да поўнай перамогі, якасны ўзровень збройнага пратэсту вырасце ў абсалютным значэнні. Гэта значыць, сітуацыя маргіналізуецца яшчэ больш. А наступны этап багаты ўжо разгулам бытавога крымiналу, стрымліваючым фактарам для якога з'яўляецца прысутнасць сілавых структур і падкантрольнасць ім тэрыторыі. Пра гэта не задумваюцца ні тады, калі пакідаюць параненых сілавікоў паміраць, ні тады, калі выкрываюць чужыя аўтамабілі і кватэры», — піша палітолаг Вадзім Адэркас.

Этыка журналіста не дазваляе мне падтрымліваць той ці іншы бок. Аднак у дадзеным выпадку я дазволю сабе выказаць уласную думку. Падаецца, што, хутчэй за ўсё, маюць рацыю песімісты. Па гэта сведчыць тое, што ўпершыню сярод назваў тэматычных блокаў на ўкраінскіх сайтах побач з рознымі там «Надвор'е», «Спорт», з'явіўся блок — «Грамадзянская вайна».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Вынікі знешнеэканамічнай дзейнасці Беларусі — балючае пытанне для краіны. Адмоўнае знешнегандлёвае сальда па выніках года склала 1,7 мільярда долараў. Здарылася гэта таму, што на 20% «абваліўся» беларускі экспарт. Вынікам недахопу замежнай валюты ў краіне сталі «паўзучая» дэвальвацыя беларускага рубля і пастаянныя дэвальвацыйныя чаканні. Далёка не вясёлыя перспектывы беларускага экспарту ў новым годзе на фоне дэвальвацыі нацыянальных валют у суседніх краінах — асноўныя гандлёвыя партнёры, даюць сёння падставы казаць мясцовым эканамістам пра тое, што такая ж доля чакае і Беларусь. Каб хоць неяк выратаваць у гэтых умовах свой экспарт, паўзучай дэвальвацыяй Мінску будзе недастаткова, мяркуюць эксперты.

**«Независимая газета» (Расія)**

Нягледзячы на тое што ў Беларусі таксама выраслі цэны на корм, сабекошт вытворчасці сырога малака там на 20–30% ніжэй, чым у Расіі. Беларускія пастаўшчыкі нядрэнна сябе адчуваюць, прапаноўваючы свой прадукт на 10–15 % танней, чым расійскія перапрацоўшчыкі. Больш за палову выробленага малака беларусы прадаюць у Расію, і кошты, якія Мінск устанаўлівае для экспарту, вышэй за тыя, што перапрацоўшчыкі атрымліваюць на ўнутраным рынку. У выніку восенню ў беларускіх крамах нават былі перабоі з малаком. «Усе рванулі зарабляць у Расію», — растлумачыў прадстаўнік Міністэрства гандлю Рэспублікі Беларусь, які папрасіў не называць ягонага імя.

**«Коммерсантъ» (Расія)**

Аб сур'ёзных праблемах у эканоміцы Беларусі цяпер услых разважаюць не толькі незалежныя эканамісты, але і адказныя чыноўнікі, якія зрабілі на мінулым тыдні шэраг крытычных заўваг пра стан эканомікі, пакуль прэзідэнт Лукашэнка ў Сочы падтрымліваў беларускіх алімпійцаў. Пры гэтым ніхто з функцыянераў так і не заявіў, што варта рабіць для выхаду з такога становішча. Паўзучае падзенне курсу беларускага рубля не можа павысіць канкурэнтаздольнасць тавараў з Беларусі ў рамках Мытнага саюза, а ў той час аб «канкурэнтнай дэвальвацыі» для спрыяння прасоўвання сваёй прадукцыі паклапаціліся Казахстан і Расія. Услед за падзеннем курсаў расійскага рубля і казахстанскага тэнге ў Беларусі з-за дысбалансаў у эканоміцы склаліся ўсе падставы для дэвальвацыі нацыянальнай валюты.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Неразумна спадзявацца на тое, што Расія за ўсё заплаціць. Нават Беларусь, атрымліваючы крэдыты ад Крамля, вымушана выконваць яго эканамічныя патрабаванні. У тым ліку і па карэкціроўцы валютнага курсу. Так было пасля чарговага абрання Аляксандра Лукашэнкі, калі эканоміка краіны нечакана апынулася на мяжы краху. Так, верагодна, будзе і ва Украіне.

**«Кантракты» (Украіна)**

Дзяржавы прэміруюць пераможцаў і прызёраў алімпійскіх гульняў (прычым менавіта з дзяржаўных агульнанародных сродкаў), і вельмі значна. Так, у беднай Беларусі — вельмі вялікі прэміяльны фонд: пераможца алімпіяды атрымлівае аж 150 тысяч даляраў. Для параўнання — у Германіі, якая зараз знаходзіцца на верхнім радку алімпійскай табліцы, чэмпіён атрымлівае 21 тысячу долараў, а Нарвегія і Швецыя не ўзнагароджваюць спартсменаў зусім!

**«Трибуна» (Расія)**

Варта толькі зірнуць на Беларусь, дзе ўведзеныя ў свой час санкцыі супраць рэжыму Лукашэнкі прывялі толькі да яшчэ большай ізаляцыі гэтай краіны. Хоць менавіта такое параўнанне ў еўрапейскіх сталіцах разглядаецца як нешта накшталт «благога сну». Ператварэнне Украіны ў «другую Беларусь» магло б стаць найгоршым сцэнарам як для Бруселя з Варшавай, так і для Берліна.

**«Укрінформ» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КІТАЙ. «FERRARI» ПАД ЗАБАРОНАЙ

Увесь Кітай бурліць з-за навінаў з Пекіну. Тут у ноч на 14 лютага на трасе з аэрапорту ў цэнтр гораду адбылася жудасная аўтакатастрофа, у выніку якой загінуў адзін з «чырвоных прынцаў» — сын высокага наменклатуршчыка. Але сам факт смерці 21-гадовага хлопца і двух яго сяброў мала каго цікавіць. Куды цікавей для грамадства, адкуль нябожчык узяў 400 тысяч еўра. Менавіта столькі, быццам, каштавала «Ferrari», на якой ён на вялікай хуткасці ўляцеў у мост. Відавочна, кошт машыны і абставіны трагедыі не дадаюць бонусаў іміджу ўлады. Тым больш, што ніхто не забыўся, як два гады таму ў такім жа дарожным інцыдэнце на падобным спартовым аўтамабілі класу люкс загінуў іншы сын аднаго з сябраў цэнтральнага апарату Кампартыі. Гэта выклікала сапраўдны выбух нянавісці да ўладаў на інтэнэт-форумах. На гэты раз камуністы перастрахаваліся: усім выданням, якія пішуць пра аварыю, забаранілі згадваць пра марку машыны. Акрамя таго, пошукавыя сістэмы ў кітайскім сегменце інтэрнэту адмаўляюцца шукаць і выдаваць спасылкі на слова «Ferrari».

**Паводле французскай прэсы**




### УКРАІНА. ХТО ЗАХОПІЦЬ БРЭНД «МАЙДАН»?

Аказваецца, пакуль украінцы абаранялі Майдан, шмат палітыкаў і камерсантаў спрабавалі зарэгістраваць аднайменную марку як у камерцыйных, так і палітычных мэтах. Найбольш буйная бітва разгарнулася вакол гандлёвай маркі «Еўрамайдан». На цяперашні час на тое, каб валодаць такой маркай, прэтэндуюць вядомы палітык Віктар Клічко і малавядомы актывіст руху «Студэнцкі Еўрамайдан» Уладзімір Кампанiец. Акрамя таго, ужо пададзеная заява на рэгістрацыю арганізацый «Грамадскі рух Народны Майдан», «Усеўкраінскае аб'яднанне Майдан», Грамадскае аб'яднанне «Майдан», «Народнае аб'яднанне Майдан», «Грамадская платформа Майдан». Нарэшце, нехта Зайчанка ўжо спрабуе зарэгістраваць палітычную партыю, якая так і называецца — «Майдан». Большасць шараговых апазіцыянераў, калі меркаваць па каментарах на незалежных СМІ, крытыкуюць такі пачын. Асабліва дасталася Клічко. Дарэчы, зараз усе чакаюць, што гопнік Вадзім Цітушка, чыё імя стала вызначэннем living ... 

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. СКАНДАЛ З КУБІНСКІМІ ДАКТАРАМІ

У Бразіліі нечакана абвастрыліся дэбаты па пытанні, ці трэба і далей запрашаць у краіну дактароў з Кубы. На Кубе медыцына вельмі моцная, і з'яўляецца ледзь не галоўным артыкулам кубінскага экспарту. Кубінскіх дактароў ахвотна запрашаюць да сябе на працу левыя рэжымы краінаў Лацінскай Амерыкі. Дзейнічае такая праграма і ў Бразіліі. На цяперашні момант тут працуюць каля 7 тысяч медыкаў. Акрамя таго, на днях падпісана дамова, паводле якой у жніўні ў Бразілію прыедзе яшчэ 13 тысяч дактароў з Гаваны. Правая апазіцыя крытыкуе дамову. На яе думку, экспансія такой колькасці дактароў з Кубы проста знішчыць сістэму падрыхтоўку мясцовых доктарскіх кадраў. Спрэчка адбываецца на фоне скандалу вакол кубінскага доктара Рамоны Матас, якая прыбыла працаваць у Бразілію, каб пасля збегчы з месца працы і папрасіць палітычны прытулак у амерыканскім пасольстве. Доктарка прайнфармавала грамадскасць пра ўмовы працы для кубінскіх дактароў. Аказваецца, з заробку ў тысячу долараў ЗША яны вымушаны 600 аддаваць у дзяржаўны бюджэт Кубы, а пражыць на 400 долараў у Бразіліі, дзе цэны, як у Маскве, практычна немагчыма. На думку наглядальнікаў, у выніку ўсё ж кантракт пачне працаваць. Па статыстыцы, у мінулым годзе 22 мільёны бразільцаў не мелі доступу да медычных установ з-за дэфіцыту дактароў.

**Паводле нямецкай прэсы**

### РУМЫНІЯ. КОЛЬКІ БУДЗЕ КАШТАВАЦЬ УВАХОД МАЛДОВЫ?

Эканамісты Малдовы і Румыніі прыдумалі сабе новую гульню — рабіць калькуляцыю таго, колькі будзе каштаваць румынам уваход у склад іх краіны Малдовы. З такой праграмай даўно носяцца шмат румынскіх і малдаўскіх палітыкаў. Аднак цяпер такі праект выглядае больш-менш рэалістычна. Па чутках, у лютым Еўракамісія можа абвесціць бязвізавы рэжым паміж ЕС і Малдовай. Гэта адчыняе шлях Малдове ў ЕС, сябрам якога з'яўляецца Румынія, што дае шанцы на інкарпарацыю. Праўда, не вядома, ці пацягне ўнію румынскі бюджэт. Ужо на першым этапе Бухарэст павінен будзе даць Кішынёву 25 мільярдаў еўра на ўніфікацыю заканадаўства, прававой сістэмы і г. д. Аб'ём ВУП на душу румынскага насельніцтва ў выніку знізіцца з 6,7 тысяч еўра да 5,7 тысяч на год. Нягледзячы на такую жудасную арыфметыку, усе прызнаюць, што гэтыя выдаткі не прывядуць да разбалансаванасці румынскай эканомікі. Але застаецца пытанне, як доўга Румынія будзе здольная фінансаваць інтэграцыю. Эксперты лічаць, што для поўнага ўваходжання Малдовы ў склад Румыніі патрэбна прыблізна 7–10 гадоў.

**Паводле румынскай прэсы**

МЕРКАВАННЕ





# КАЗАХСТАН: НАСТУПСТВЫ ЧОРНАГА АЎТАРКА

**Дэвальвацыя ў Казахстане выклікала даўно не бачаны ўздым вулічных пратэстаў. Пра сацыяльную прыроду, праграму і перспектывы гэтага пратэсту журналіст НЧ Алег Новікаў размаўляе з казахскім праваабаронцам Андрэем Грышыным.**




Шматлікія крамы зачыніліся, каб устанавіць больш высокія кошты. Пайшла хваля валютных спекуляцый. Людзі зразумелі, як моцна скараціласся іх пакупніцкая здольнасць. Сваю ролю згуляла і пераеменаванне

***— Наколькі «чорны аўторак» — так ўжо празвалі казахі 11 лютага — аказаўся шокам для насельніцтва?***

— Нягледзячы на тое, што гэта не першая дэвальвацыя тэнге, цяпер рэакцыя грамадства вельмі балючая. Магчыма, справа ў тым, што Нацбанк прыдумаў кепскае, нязграбнае і нават цынічнае апраўданне для такога кроку. Было сказана, што дэвальвацыя сярод іншага дапамажа зменшыць кошты і палепшыць жыццё. Аднак адразу ж стала відавочна адваротнае. Шматлікія крамы зачыніліся, каб устанавіць больш высокія кошты. Пайшла хваля валютных спекуляцый. Людзі зразумелі, як моцна скарацілася іх пакупніцкая здольнасць. Таксама сваю ролю згуляла кампанія за перайменаванне краіны, якую за некалькі дзён да дэвальвацыі пачаў прэзідэнт. Усе ўпэўненыя, што на той момант ён ведаў пра будучае рашэнне Нацбанка і проста хацеў неяк адцягнуць увагу ад фінансавай сітуацыі.

***— Вядома, што пасля падзей у Жанаазене казахскія спецслужбы правялі татальную зачыстку апазіцыі. Як пасля такога яна здолела адрадзіцца?***

— Апазіцыя здулася. А з улікам таго, што моцна яе кантралююць, шанцаў нешта арганізаваць у яе няшмат. Акцыі пратэсту атрымаліся таму, што ніхто не чакаў, што ўздымуцца раней апалітычныя сектары грамадства. Перш за ўсё, студэнты. Яны праз інтэрнэт-суполкі дамовіліся разам выйсці ў прызначаны час у канкрэтнае месца. Дэвальвацыя тэнге стала проста спускавым кручком для таго, каб выказаць усё, што накіпела. Асабіста я з гэтым феноменам сутыкнуўся ў пастарунку, дзе мяне трымалі пасля арышту падчас адной з акцый. Там распавядалі, што ў суседнюю камеру пасадзілі хлопца, які падышоў да стэлы Незалежнасці (галоўны афіцыйны помнік у Алма-Аце) і дэманстратыўна на яе памачыўся. Па яго словах, ён як мог выказаў сваю пазіцыю ў адносінах да ўсяго таго, што адбываецца. Прысутны каля помніка дзяжурны паліцэйскі зніякавеў ад такога нахабства. Хлопца затрымалі і аформілі за хуліганства.

***— Як адрэагавала на пратэсты ўлада? Была інфармацыя пра тое, што на вуліцах Алма-Аты нават з'явілася вайсковая тэхніка.***

— Відавочна, што ўлада перапужалася. Асабліва, калі папаўзлі чуткі пра тое, што паўсталі прыгарады Алма-Аты. У горад хутка ўвялі войскі і спецтэхніку, нібыта з мэтай інспекцыі іх тэхнічнага стану. Што тычыцца афіцыйнай рэакцыі, то дзяржаўныя СМІ, натуральна, пратэсты не пабачылі. Пазней Назарбаеў выступіў і паабяцаў узняць заробкі і ўсталяваць кантроль над коштамі. Зразумела, што ўлада намагаецца стабілізаваць сітуацыю. Нават з затрыманымі абышліся вельмі гуманна па нашых мерках. Толькі адзін з удзельнікаў акцыі застаўся пад арыштам. Усе іншыя асуджаныя да штрафу.

***— Наколькі вядома, у казахскай палітыцы вялікую ролю адыгрываюць кланы. Які-небудзь з кланаў здольны падтрымаць пратэсты? Ці могуць перайсці на бок пратэстоўцаў мясцовыя алігархі?***

— Калі сітуацыя пачне выходзіць з-пад кантролю, патэнцыйна прыяднацца да апазіцыі можа Малодшы або Заходні жуз (клан), паколькі ў цэнтральнай адміністрацыі зараз пераважаюць сябры Старэйшага і Сярэдняга жузу, а галоўныя карысныя выкапні знаходзяцца на захадзе краіны. Што тычыцца алігархаў, то зараз поле ад з'яўлення казахскіх алігархаў-апазіцыянераў, быццам, зачышчанае. Тым больш, зараз Астана актыўна патрабуе экстрадыцыі аднаго такога алігарха Мухтара Аблязава. З іншага боку, такія, як Аблязаў, так ці інакш увесь час узнікаюць, паколькі людзі часта прыкрываюць бізнэс палітыкай.

***— Калі дапусціць, што вулічныя пратэсты набудуць масавы характар, які будзе стаўленне Захаду?***

— Наш урад вельмі клапоціцца пра імідж Казахстану на Захадзе. Існуе практыка, калі вядомых на Захадзе персонаў вярбуюць абельваць Назарбаева. Напрыклад, той жа Тоні Блэр. Акрамя таго, ёсць шмат газавых кантрактаў з амерыканцамі і еўрапейцамі. Аднак у выпадку калектыўнага пратэсту, думаю, што стопрацэнтнай падтрымкі Назарбаева з боку Захаду не будзе. Усе ведаюць, што ў нас вельмі аўтарытарная сістэма, і ніякія іміджавыя тэрапіі прэзідэнту ўжо не дапамогуць.

***— Як паставіліся да пратэстаў рускамоўныя паўночныя рэгіёны Казахстану?***

— Калі меркаваць па першых каментарах на форумах, адзінай думкі няма. Частка вітае выхад людзей на вуліцу, а значная частка баіцца, што, як і на Майдане, ініцыятыву перахопяць казахскія нацыяналісты. Сапраўды, казахскія нацыянальныя лозунгі прысутнічалі падчас акцыі 15 лютага ў Алма-Аце. Аднак гэта не значыць, што рускія будуць падтрымліваць Назарбаева, які іх таксама дастаў. Таму, на маю думку, рускамоўныя будуць трымаць нейтральны бок у магчымым канфлікце.

***— Якія перспектывы ў пратэстнага руху ў Казахстане?***

— Пакуль цяжка сказаць. Хаця студэнцтва працягвае абурацца, ёсць думка, што ўсё паступова стабілізуецца. Справа не ў нізкім узроўні свядомасці, а ў тым, што практычна кожны жыхар Алма-Аты з вопыту суседняга Кыргызстану ведае, што такое рэвалюцыя па-азіяцку. Паверце мне, гэта — не Майдан. Гэта куды больш брутальная рэч. Нават я, чалавек, блізкі да апазіцыі, з аднаго боку, хачу пераменаў, а з другога — баюся чалавечага кошту, які прыйдзецца за іх заплаціць.

ЦІКАВА

# ІНТЫМ АФІЦЫЙНАГА ЎЗРОЎНЮ

Алег НОВІКАЎ

**Заява 84-гадовай Барбары Ярузельскай пра намер скасаваць шлюб з 90-гадовым Войцэхам Ярузельскім выклікала па той бок Бугу вялікі інтарэс да гісторый кахання першых лэдзі камуністычнай Польшчы.**





Хаця па канстытуцыі сацыялістычная Польшча была рэспублікай са сваімі заканадаўчымі і, адпаведна, выканаўчымі органамі, відавочна, што на самай справе ўся ўлада знаходзілася ў руках першага сакратара Польскай аб'яднанай рабочай партыі (PZPR).

За час існавання Польскай Народнай Рэспублікі гэтую пасаду займала сем асобаў. Усе яны былі жанатымі мужчынамі, прычым некаторыя паспелі схадзіць у ЗАГС некалькі разоў. У дадатак шэраг апаратчыкаў жылі ў грамадзянскім шлюбе. Цікава, што сярод каханак лідараў камуністычнай Польшчы сустракаецца і беларуска. Гэта Анастасія Калеснікава, якая падчас вайны жыла ў Мінску разам з Баляславам Берутам, пасляваенным кіраўніком савецкай Польшчы. Дарэчы, у 1970-я гады Анастасія спрабавала пісаць тагачаснаму лідару PZPR Эдварду Герэку лісты, патрабуючы ўзнагароды за гэты перыяд свайго жыцця.

Цікава, што на час раману з Калеснікавай у Берута была не толькі афіцыйная жонка Яніна Гужынска і двое дзяцей, аднак і грамадзянская — Малгажата Фарнальска, якая нарадзіла яму дачку. З Малгажатай Берут пазнаёміўся ў Маскве, дзе малады камуніст з 1927 года вучыўся ў Ленінскай партшколе. Цікава, што пасля Берут перацягнуў у Маскву і Яніну з дзецьмі. Усе яны жылі разам і, мяркуючы па ўспамінах сына Берута, ніякіх канфліктаў у вялікім сямействе не было.

Хаця Малгажата была забітая гестапаўцамі падчас Варшаўскага паўстання, да Яніны Баляслаў не вярнуўся. Новай пасіяй правадыра польскага пралетарыяту стала Ванда Гурска, ягоная сакратарка, якую за вочы называлі «Каралева Бельведэру» (Бельведэрскі палац — рэзідэнцыя кіраўнікоў Польшчы). Праўда, адпаведна афіцыйным даведнікам, менавіта Яніна была «першай лэдзі». Яна перажыла мужа на 29 гадоў і, відаць, асабліва не шкадавала, што муж жыве з Вандай. Захаваліся яе асабістыя лісты да Берута, у якіх яна называе яго «Пан прэзідэнт».

Пасля смерці Берута ў 1956 годзе ў Польшчы пачынаецца эра Уладзіслава Гамулкі. Разам з ім на палітычнай сцэне з'яўляецца і яго жонка Соф'я Гамулка, якая, дарэчы, мела яўрэйскія карэнні. Гэты факт не дае спакою гісторыкам, паколькі ў сакавіку 1968-га менавіта Гамулка быў ініцыятарам антысеміцкай кампаніі. Таксама не зразумела, чаму пара, якая жыла разам з 1928 года і мела сына, заключыла шлюб толькі ў 1950-м. Так ці інакш, ужо праз год муж і жонка былі арыштаваныя падчас чарговай чысткі. Дзякуючы хрушчоўскай адлізе і славутаму паўстанню ў Познані, у 1956 годзе Гамулкі пакінулі турму, а Уладзіслаў як былы крытык Берута нават заняў вышэйшую пасаду ў партыі. Што тычыцца яго жонкі, то яна спрабавала таксама ўдзельнічаць у палітычным жыцці, аднак гэта хутчэй выклікала смех у грамадстве. Перш за ўсё, Соф'я нічога не разумела ў сучаснай культуры, дзякуючы чаму стала героем анекдотаў.

Трагедыя ў Гданьску ў снежні 1970 года, калі міліцыя страляла ў страйкуючых рабочых, прывяла да новых ракіровак унутры апарату PZPR. Да перамогі сацыялізму Польшчу цяпер павёў Эдвард Герэк, які дзякуючы замежным крэдытам на нейкі час забяспечыў краіне высокія тэмпы развіцця. Адным з сімвалаў новай эпохі лічыцца і Станіслава — жонка Герэка. За характаво і розум яе называлі не толькі першай дамай Польшчы, аднак і ўсяго сацыялістычнага блоку. Стася (так звалі Станіславу ў народзе) мела вышэйшую адукацыю і, больш таго, актыўна цікавілася палітыкай. Лічыцца, што менавіта яна пераканала мужа не абвяшчаць ваеннае становішча, калі ў 1980 годзе пачаўся страйк на Гданьскай верфі. Прынамсі, апазіцыйная прэса сцвярджала, што мірныя перамовы з забастоўшчыкамі — гэта якраз справа Станіславы Герэк, якая, напэўна, не ведала, што дні яе мужа на пасадзе першага сакратара скончаныя. Крэмль не прабачыў Варшаве тое, што яна міндальнічае з Валенсам.

У 1980 годзе Герэка замянілі на Станіслава Каня, што было пралогам для прыходу да ўлады сілавіка Ярузэльскага. Жонка Каня Барбара чымсьці нагадвала Станіславу Герэк. Яна таксама мела вышэйшую адукацыю (у 1969 годзе стала магістрам германістыкі) і займалася танцамі і спевамі. Аднак у адрозненні ад папярэдніцы ў палітыку прыныпова не лезла. Нават адмаўлялася ад удзелу ў публічных раутах, цалкам надаючы прыярытэт навуцы і хатнім справам.

Сціпласць і непублічнасць Барбары кампенсавала апошняя першая лэдзі сацыялістычнай Польшчы — Эльжбета Кемпіньска — другая жонка першага сакратара Мечыслава Ракоўскага. Ракоўскі займаў гэту пасаду ўсяго 6 месяцаў у 1989 годзе (хутка PZPR самараспусцілася). Аднак гэтых шасці месяцаў хапіла, каб грамадства ўзгадала адну з найбольш пікантных гісторый часоў польскага сацыялізму.

У 1960-я гады Ракоўскі — супрацоўнік цэнтральнага апарату партыі — быў жанаты на вядомай скрыпачцы Вандзе Вілкамірскай, якая мела ад яго двух дзяцей, аднак захапіўся акторкай Эльжбетай Кемпіньскай. Яны тайна сустракаліся амаль дзесяць гадоў, прычым Эльжбета і Ванда пры гэтым заставаліся блізкімі сяброўкамі. Пасля таго, як праўда пра адзюльтэр усплыла, Ванда пагадзілася на развод. На гэты час Ракоўскі быў ужо сябрай Цэнтральнага Камітэту PZPR.

У прынцыпе, уся тэма першых дам сацыялістычнай Польшчы і адносін унутры сямей першых сакратароў патрабуе дадатковага вывучэння. Відавочна, што сямейная атмасфера магла паўплываць таксама на палітычныя ўчынкі.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### ІСЛАМ КАРЫМАЎ



Прэзідэнт Узбекістана пачаў крыжовы паход супраць Дня святога Валянціна, або Дня ўсіх закаханых. Напярэдадні 14 лютага па ўсёй вертыкалі спусцілі інструкцыю забараніць усялякія забаўляльныя мерапрыемствы, паколькі яны, быццам, абражаюць пачуцці «вялікага ўзбекскага народу» і супярэчаць ідэям «правільнага кахання». Св. Валянціна актыўна спрабуюць дыскрэдытаваць, маўляў, ён быў злачынцам, паколькі без санкцыі ўлады афармляў шлюбы. Гэта, быццам, недапушчальна, паколькі спрыяе палавой распушчанасці. Акрамя адміністратыўных мераў па забароне свята, узнята пытанне аб заснаванні ў рэспубліцы «правільнага свята кахання», якое павінна «адказваць высокім духоўным патрэбам нацыянальнай самасвядомасці». Сярод іншага прапануецца святкаваць 14 лютага Дзень сям'і. Іншыя варыянт — Дзень дабрыні. Нарэшце, ёсць тэма, звязаная з фігурай сярэднявечнага паэта і палкаводца Бабура, які, дарэчы, нарадзіўся таксама 14 лютага. Прыхільнікі святкавання Дня Бабура нават прапануюць пасылаць адзін аднаму «бабурынкі». Пакуль ідзе дыскусія, узбекская моладзь працягвае святкаваць нелегальна. Як піша незалежная прэса, моладзь проста тайна арандуе кватэры і там праводзіць свае вечарыны.

### РЫЧАРД КІН



Рычард Кін стаў Новым лідарам шатландскай секцыі Кансерватыўнай партыі Вялікабрытаніі ў вырашальны для лёсу шатландскіх торы час. На восень прызначаны рэферэндум аб незалежнасці краю, супраць чаго рашуча выступаюць кансерватары. Будучы галоўнай антысепаратысцкай сілай, партыя Кіна мае надзею, што ўсе працаўнікі незалежнасці звернуць увагу на іх. Гэта можа дазволіць шатландскім торы выйсці з маргінесу, у якім яны знаходзяцца апошнія гады (у брытанскім парламенце толькі адзін кансерватар з Шатландыі. Пакуль што часткова план Кіна рэалізуецца. На мінулым тыдні незалежнікі прапусцілі два сур'ёзных медыйных ўдары. Спачатку шатландскі прэм'ер, лідар нацыяналістаў Алекс Салмон, заявіў, што нацыянальнай валютай у вольнай Шатландыі будзе брытанскі фунт, а гэта супярэчыць самой ідэі незалежнасці. Пасля Брусэль вуснамі старшыні Еўракамісіі Жазэ Бароза выказаў сумнеў наконт таго, што Шатландыя можа стаць сябрам ЕС. Усё гэта адбілася на рэйтынгу нацыяналістаў. Аднак не факт, што купоны будуць стрыгчы торы. Раней усе тры парламенцкія партыі Вялікабрытаніі (кансерватары, ліберал-дэмакраты і лейбарысты) дамовіліся аб правядзенні сумеснай кампаніі супраць выхаду Шатландыі са складу Аб'яднанага Каралеўства. Калі меркаваць па рэакцыі прэсы, значна больш шатландцаў хвалюе не тэма адзінства брытанцаў (фішка торы), а сацыяльна-эканамічны кошт незалежнасці, на чым робяць акцэнт лейбарысты.

### СЯРГЕЙ САБЯНІН



З ініцыятывы апарату Сабяніна маскоўская гарадская дума зацвердзіла план новай сістэмы аховы школ у расійскай сталіцы. На думку аўтараў, на ўваходзе ў кожную школу сталіцы Расійскай Федэрацыі павінен стаяць металадэтэктар. Такім чынам можна будзе пазбегнуць трагедый накшталт той, што нядаўна адбылася ў адной з маскоўскіх школ. Каля ўваходу ў кожную школу павінен быць турнікет, які не дазволіць патэнцыйнаму школьніку-злачынцу прайсці ў школьную ўстанову з ружжом ці пісталетам. Ініцыятыва выклікала шмат крытыкі, у тым ліку з боку настаўнікаў. Відавочна, што металадэтэктар будзе часта звінець, фіксуючы наяўнасць металу, што парушыць акустыку, неабходную для заняткаў. Не падзяляе ідэй і ліберальная апазіцыя. На яе думку, дэпутаты і Сабянін задумалі распілаваць сродкі, якія пойдуць на набыццё дэтэктараў і турнікетаў. Хаця эфектыўней было б вярнуць у школы стаўку псіхолага, які мог бы дапамагчы школьнікам. Аднак далей за ўсіх пайшлі рускія нацыяналісты. Яны згодныя, што ў школьніка, які страляў у школе, былі праблемы з псіхікай, аднак тыя праблемы былі, быццам, выкліканыя намерам атрымаць статус залатога медаліста. Нечакана, на іх думку, ён даведаўся, што залатыя медалі нічога не значаць, паколькі каўказскім школьнікам такія медалі робяць за хабар. Быццам, на гэтай глебе ў хлопца і паехаў дах. Што тычыцца аматараў жартаў, то іх увагу ў рашэнні думы прыцягнуў пункт аб неабходнасці падключыць да аховы школаў конныя паліцэйскія патрулі. Усе смяюцца, уяўляючы, як паліцэйскі на кані будзе праязджаць праз турнікет.

ГУТАРКА

# Рыгор Барадулін: «ЗАРАЗ ГАДЫ —

Сяргей ШАПРАН

**24 лютага Рыгору Барадуліну споўніцца 79 гадоў. Не юбілей, вядома, але ж добрая нагода пагаварыць з тым, чыё імя ўвасабляе сабой не толькі чалавечую годнасць — яно даўно ўжо стала, разам з імёнамі Багдановіча, Купалы, Коласа, Быкава і Караткевіча, своеасаблівым сімвалам беларускай літаратуры і нацыі.**


Фота Сяргея Шапрана

Рыгор Барадулін, люты 2014 года

***— Дзядзька Рыгор, з якім настроем вы цяпер жывяце?***

— Мне і дасюль здаецца, што ўсе старэйшыя за цябе, гэта толькі ты малады. Але часам як узгадаеш, што табе пад 80, нібыта з-за пазухі дастанеш гэтыя лічбы… Я заўсёды думаў, што 80 гадоў — гэта многа і, вядома, ніколі на сябе не прымяраў, а цяпер, калі мне самому столькі, дык адчуваю, што гэта ўсё-ткі мнагавата… Ну, колькі Бог дае, столькі і будзеш жыць, нікуды не ўцячэш, усе гады — плённыя яны ці не — усе яны твае. І чым меней застаецца тых гадоў, тым больш хочацца жыць. Гэта ў маладосці ніколі не задумваешся пра тое і перакананы, што яшчэ шмат часу наперадзе, што ўсё паспееш. А цяпер як паглядзіш, дык падаецца, што ў асноўным усё не тое рабіў у гэтым жыцці — шмат рабіў лішняга, пустога, неабавязковага. Але, з іншага боку, так ужо жыццё ўладкавана. Гэта ж не сцэнарый. Так ужо Бог даў.

***— Нядаўна Аляксандр Лукашук на Радыё «Свабода» распавёў пра кнігу аўстралійскай медсястры Броні Уэа «Пяць галоўных шкадаванняў людзей, якія паміраюць»: аўтар некалькі гадоў даглядала пацыентаў у апошнія тры месяцы іх жыцця, і высветлілася, што гэтыя людзі часта аднолькава выказваліся пра тое, што б яны зрабілі інакш у сваім жыцці. Дык вось галоўныя шкадаванні такія: шкада, што не хапіла смеласці пражыць жыццё ў згодзе з самім сабой, а не так, як чакалі іншыя; шкада, што шмат працавалі; шкада, што страцілі сувязь з сябрамі і што не дазволілі сабе быць больш шчаслівымі. Цікава, што адзін з каментатараў да публікацыі пра кнігу ў англійскай газеце «The Guardian» напісаў, што шкадуе з усіх гэтых нагадаў ужо цяпер, хоць яму толькі 21 год. А ці знаёмыя вам гэтыя шкадаванні?***

— Шкадаванні знаёмыя, я гатовы да кожнага далучыцца і пад кожным распісацца. Гэта агульначалавечыя шкадаванні… Самае страшнае — застацца аднаму… Мне заўсёды хацелася вялікай сям'і, бо без сям'і мы — нічога… Мая мама, светлая ёй памяць, гаварыла, калі я быў яшчэ малады: «Каб быў з доўгай барадой і каб у цябе было многа ўнукаў, якія б цягалі цябе за бараду і мясілі табе клёцкі». «Мясіць клёцкі» — так у нас звычайна казалі, калі нехта нязлосна мясіў цябе кулачкамі ў жывот… Калі быў маладзейшы, дык у мяне было многа сяброў. Тыя ж Валодзя Караткевіч і Міхась Стральцоў былі для мяне як сям'я… Цяпер я адзін… Праўда, ёсць такая вушацкая прыказка: адзін ды ладзін, у сэнсе — ды ладны, але гэта слабое суцяшэнне…

***— Між тым, часу ад часу бываючы ў вас, не магу не адзначыць, што ў вас з жонкай Валянцінай Міхайлаўнай сталі больш пяшчотныя адносіны. Ва ўсялякім выпадку, так збоку здаецца.***

— Можа быць, бо, разумееце, пад канец жыцця ў памяці ўсплывае ўсё-ткі ўсё добрае. Праўда, калі часам пакрыўдзішся… Але ж мы столькі гадоў разам! Я нават не ўяўляю, як гэта кажуць, хто коней мяняе, у таго хамут гуляе. Жонка — гэта ж як хамут, у добрым сэнсе слова… Калі б не Валя, я загнуўся б ужо зусім.

***— А час для вас зараз бяжыць?***

— Невераемна. Час цяпер паскораны для мяне. Раней і гадзіна больш важыла, а зараз гады — як вераб'і з-пад страхі.

***— Нехта даў такое тлумачэнне, чаму ў маладосці гады павольнай хадой ідуць, а ў старасці лятуць: таму што ў маладосці падымаешся на гару, а ў старасці спускаешся з той гары.***

— Так і ёсць… Спускаешся з гары, і ведаеш, што ніколі ўжо не падымешся. Да таго ж з цягам часу забываюцца твары, імёны, і застаецца толькі агульнае адчуванне, што ты жыў. Дый яшчэ тое, што ва ўсе часы побач з табой былі добрыя людзі. Хоць некаторыя і гавораць, што людзі дрэнныя, але, відаць, сам гэты чалавек дрэнны, бо які сам, такіх і сяброў сабе выбіраеш. Ёсць такая прымаўка: кожная пачвара знойдзе сабе пару… (Усміхаецца.) Гэта трошку гарбата, але так яно і ёсць.

***— Лермантаў казаў: «Чым сам чалавек горшы, тым усё яму горшым здаецца». Нібыта пра іншае, але, здаецца, усё пра тое ж.***

— Правільна-правільна. Паглядзі на таго, з кім сябруеш, — значыцца, і ты такі, бо твой сябар — гэта тваё люстэрка.

***— Калі гаварыць пра вашае люстэрка, дык на сённяшні дзень хто застаецца для вас найгалоўнай падтрымкай?***

— Самае страшнае, што з кожным годам сяброў усё менее, і застаюцца самыя дарагія. Найперш, гэта мой аднагодак Генадзь Бураўкін — ён з нашага загону, з нашага асяродку. Гэта і крыху маладзейшы Уладзімір Някляеў, які стаіць ужо на мяжы пакаленняў. Гэта і Алесь Камоцкі — я заўсёды маю патрэбу пазваніць яму і паслухаць яго. Гэта і малады і шалёны Глеб Лабадзенка, які многа дроў наламаў дый яшчэ наламае, але затое ён імкнецца нешта рабіць. Калі б можна было арганізаваць армію такіх Лабадзенкаў, дык яны б усё перавярнулі дагары — у добрым сэнсе перавярнулі б.

***— І была б Беларусь сапраўды вольнай і незалежнай.***

— Так. Але, разумееце, у Беларусі дзвесце гадоў — яшчэ з часоў Каліноўскага — давілі, давілі, давілі…

***— Нехта, па-мойму, небеспадстаўна заўважыў, што беларусы — нацыя, у якой адзіная мэта — абы выжыць. Ці пагодзіцеся з гэтым?***

— Вонкава гэта так, але ў душы беларусы жывуць сваім уласным жыццём і абараняюць сваю душу пад выглядам таго — абы выжыць.

***— Маўляў, наша хата з краю?***

— Так, але тая хата, якая з краю, яна ж практычна на пярэдняй лініі, ці, калі перавесці на ваенную тэрміналогію, дык на перадавой: злодзеі найперш у такую хату прыйдуць… Калі б беларусы былі такія ўжо абыякавыя, калі б не баранілі сваю душу, іх даўно б ужо не было.

***— Між тым, нядаўна агучаны лічбы, колькі кніг было выдадзена ў Беларусі ў мінулым годзе, дык беларускіх выданняў усяго толькі два працэнты. Гэта ж не можа не бянтэжыць вас?***

— Усё, усё, канешне, ідзе да знішчэння: знішчаюцца школкі беларускія, знішчаюцца беларускія газеты, часопісы і выдавецтвы, і ўсё ідзе тут на расійскамоўны капыл.

***— Сапраўды, русіфікацыя ідзе поўным ходам. Але, з іншага боку, на тыя ж курсы беларускай мовы «Мова нанова», якія вядуць Глеб Лабадзенка ды Алеся Літвіноўская, штотыдзень прыходзіць каля трохсот чалавек, а сайт курсаў толькі за месяц праглядвае больш за шэсць тысяч наведвальнікаў. Значыцца, цікавасць да беларускай мовы не толькі ёсць, але відавочна ўзрастае.***

— Галоўная загадка беларусаў палягае ў тым, што іх быццам бы знішчаюць, а яны ўсё роўна не даюць абкрасці душу. Часам нават здаецца, што лепей было б, каб беларускую мову наогул забаранілі — тады б цікавасць да яе была яшчэ большая. А так атрымліваецца, нібыта на марудным агні смажаць.

***— Разам з тым не магу не ўзгадаць, што якраз на гэтым тыдні на сайце кампаніі «Будзьма беларусамі!» стартаваў праект «Зоркі імёнаў»: разам з Генадзем Бураўкіным і Уладзімірам Някляевым вы пагадзіліся пісаць імянныя вершы для дзетак. Калі былі маленькія вашы дачка Ілона ды ўнучка Дамініка, вы таксама прысвячалі ім свае вершы. Апроч таго, у вас выйшла некалькі дзіцячых кніжак. Але цяпер вы будзеце пісаць ужо на замовы чытачоў. Ці цяжка наогул пісаць для дзетак?***

— Вядома, што пры камуністах існавала ўстаноўка, што для дзяцей трэба пісаць таксама, як і для дарослых, толькі значна лепей. На маю ж думку, для дзяцей трэба пісаць натуральна. Можа, нават варта самому здзяцінець… (*Усміхаецца.*)

***— Але ж вы ўсё жыццё пішаце для дзяцей.***

— Значыцца, я ўсё жыццё дзяцінеў, але тут трэба ведаць меру — таксама калі чарку бярэш. Для дзяцей трэба пісаць… я не тое, што ўказанні даю — проста гавару, як гэта адчуваю: пісаць трэба не расцягнута, жыва, вясёла, ігрыста і іскрыста. Каб кожнае слова, кожны гук западаў у душу. Абстрактныя вершы не крануць дзіцяці. Таксама як і вершы, падобныя на справаздачы на партсходах. Наогул кажучы, найлепшымі ўзорамі могуць быць народныя песні, прыпеўкі, прыказкі і прымаўкі. Там усё ёсць — і філасофія, і правілы добрага тону, і нават настаўленні, як правільна лыжку трымаць.

***— А ці трэба пры гэтым любіць дзяцей? Да прыкладу, вядомы савецкі паэт і байкапісец Сяргей Міхалкоў хоць усё жыццё і пісаў для дзяцей, але, па яго ўласным прызнанні, дзяцей не любіў.***

— Дзяцей трэба любіць хоць бы для таго, каб жыць. Ну, а калі не будзеш любіць, дык як будзеш пісаць для іх? — дзеці гэта адразу адчуюць.

***— Таксама як і ваш кот Рысік, які не да кожнага вашага госця падыходзіць?***

— А што вы думаеце! Ён, як і дзіця, адразу адчувае, хто добры, а хто дрэнны.

***— Запомнілася адно вашае прызнанне: калі мы з вамі рабілі кнігу «Тры мяхі…», вы сказалі, што ўсё жыццё хацелі быць нейкім іншым, а вось якім — самі таго не ведаеце. Я не знайшоў тады, пра што ў вас перапытаць, але запытаюся цяпер: асабіста мне заўсёды здавалася, што мае сябры лепшыя за мяне, і калі ў вас было прыкладна тое самае адчуванне, дык хто з вашых сяброў служыў вам прыкладам ці нават, сам таго не ведаючы, быў для вас маўклівым дакорам?***

— Вы разумееце, усё жыццё, яшчэ са школы, мне здавалася, што літаральна ўсе лепшыя за мяне, нават пішуць лепш за мяне. Я сапраў-

# ЯК ВЕРАБ'І З-ПАД СТРАХІ»

ды так лічыў і дасюль лічу. Гэта не поза, я не гуляю тут у сціпласць — кожнага разу мне здавалася, што вось іншыя здольныя, а я — не. Да прыкладу, я дасюль лічу, што не варты, дапусцім, следу ад абцаса Уладзіміра Караткевіча. Ужо не кажу пра Васіля Быкава ці Міхася Стральцова! І Уладзімір Някляеў піша лепей за мяне. Да таго ж ён піша для свайго часу, а ці цікавы я сёння маладым?.. Памятаю, як зусім яшчэ юнаком прыйшоў да мяне Глеб Лабадзенка, і я даў яму сваю кніжку і кнігу перакладаў вершаў Барыса Пастарнака, дык Глеб ад маёй кнігі адмовіўся, а Пастарнака ўзяў.

***— Вас гэта не пакрыўдзіла?***

— Не, але трошку зніякавацiла. Праўда, пасля я падумаў, што калі б сам быў малады, дык сказаў бы пра сябе сённяшняга: «Куды яму яшчэ вершы пісаць?! Яму ўжо трэба пра пясочак думаць!» (Смяецца.)

***— А вершы для вас сёння — гэта праца ці пад настрой пішаце?***

— Не, толькі пад настрой — нібыта вецер падзьме… Як пішацца, так пішацца… Часам сапраўды падумаеш: а ці варта яшчэ пісаць у 80? Але не пісаць я не магу. Праўда, нешта «манументальнае» даўно ўжо не з'яўляецца — хочацца толькі настраёвых іскрынак, ну, і каб гэта было натуральна. Вось калі ўзнікае пачуццё нечаканасці, калі нешта здзіўляе, чапляе, тады і пішаш, бо не можаш не сказаць пра тое. А ўжо кароткім радком ці даўгаватым… Некалі ў мяне напісалася такая вось «Паэма»:

*Мне цябе нестае*
*Тае.*

***— І калі вярнуцца да ранейшай размовы: ці былі ўсё ж сярод вашых сяброў тыя, на каго вы хацелі быць падобным?***

— Гэта ўсё тыя ж імёны — да прыкладу, далікатны Міхась Стральцоў, не кажу ўжо пра Караткевіча ці Някляева — гэта проста шалёны, ураганны шквал. Ну, і малады буранчык — Глеб Лабадзенка. Але я не хацеў бы абмяжоўвацца выключна гэтымі імёнамі, — маўляў, толькі яны ёсць і больш нікога няма. Ёсць і іншыя, проста я іх не ведаю. Гэта лёс звёў мяне з маімі сябрамі. Разумееце, лёс такі хітры пан — не ты сам зводзішся з людзьмі, а гэта лёс цябе зводзіць, прычым як з добрымі, так і з дрэннымі. І лёс тут ніякага твайго хабару не прымае, але калі і прымае, дык не звяртае на яго ўвагі. І лёсу верыш, і, безумоўна, баішся яго, бо не ведаеш, куды ён павядзе цябе заўтра.

***— Дарэчы, ніколі не пытаўся, як вы пазнаёміліся з Генадзем Бураўкіным, з якім сябруеце ўжо больш за паўстагоддзя…***

— Генадзь быў першы, каго я сустрэў ва ўніверсітэце, і адразу пацягнуўся да яго. Пасля ж вайны на філфак і журфак, і наогул у літаратуру, прыйшла цэлая плынь будучых паэтаў і празаікаў. А з Бураўкіным мы да ўсяго іншага яшчэ і землякі — сорак кіламетраў паміж намі. Полаччына — гэта ж адзін моўны край, асвечаны Скарынам. Полаччына — гэта і цемя нацыі, і сэрца нацыі. Але справа, відаць, не толькі ў філалагічнай і псіхалагічнай роднасці — на Полаччыне шмат азёр, а вада дае не толькі настрой, але і характар чалавеку. У глыбіні азёр — памяць вякоў. Гэта ж не пустэча…

***— Нездарма, відаць, адна з вашых кніг мае назву «Халодная памяць вады»?***

— Так. І, відаць, з-за гэтай крэўнасці, як у нас казалі, мы і сышліся з Генадзем практычна ад самага пачатку. Паміж намі толькі год розніцы… Мая мама дужа любіла і паважала Генадзя, ставіла мне ў яго ў прыклад, а мяне пры гэтым называла «галамежкай»…

Наогул кажучы, там, дзе быў Генадзь, заўсёды была ўсмешка, быў жарт, была мудрасць. Ён ніколі не быў абыякавы і, канешне, заўсёды быў за Беларусь і яшчэ раз за Беларусь. Гэта ж Бураўкін зрабіў нашыя тэлебачанне і радыё беларускімі. Ужо не кажу пра творчасць Генадзя — пра яго паэзію і песні. Чаго вартая адна яго «Калыханка», якая выгадавала, відаць, цэлы мільён беларусаў!..

Уклад Бураўкіна ў незалежнасць Беларусі вялізны. І хоць сённяшнія чыноўнікі гэтага не помняць, але затое помніць Беларусь, тым больш што чыноўнікі змяняюцца, а Беларусь была, ёсць і будзе. Таксама быў, ёсць і будзе Генадзь Бураўкін. І я страшэнна рады, што ён ёсць, мой дарагі сябра Генадзь, бо іншых маіх аднагодкаў ужо практычна няма…

***— Прыгадваецца, як сказаў адзін з маскоўскіх сяброў Васіля Быкава — літаратурны крытык Валянцін Аскоцкі: «Минск для меня обезлюдел».***

— Так і ёсць. У той жа самай Вушачы сёння ўжо практычна няма тых, каго я помню і хто мяне помніць.

***— Відаць, Вушача вашага маленства існуе цяпер выключна ў вашай памяці ды вашых кнігах?***

— Так, той Вушачы ўжо няма. Той Вушачы, дзе былі свае рыбакі, свае пекары, дзе калі гаварылі «схадзіць да Маймана», гэта азначала выпіць, а калі «схадзіць да Дысмана», дык — купіць печыва. Той Вушачы, дзе былі такія каларытныя асобы, як Макеенка, які мог выпіць пятнаццаць куфляў піва! А куфаль — гэта паўлітра. Можаце ўявіць?! Няма той Вушачы, дзе хадзіў такі анекдот — жонка павяла карову да быка, дык у яе пытаюцца: «Хто там?» — «Карова». — «Здаровая?» — «Здаровая». — «Давай ёй Макеенку!» А Макеенкам празвалі здаровага быка… (*Смяецца.*)

***— Між іншым, нядаўна званіла мне сястра Васіля Быкава Валянціна Уладзіміраўна, якая таксама нарадзілася і ўсё жыццё пражыла на Вушаччыне, дык сказала, што чытае цяпер ваш «Вушацкі словазбор» і ўсё здзіўляецца вашай памяці, гаварыла: «Я гэта ведала некалі ды забылася, а Рыгор усё помніць!»***

— Калі такое кажа Валянціна Уладзіміраўна, гэта для мяне найвышэйшая адзнака.

***— А ці была ў вас патрэба ў штодзённым сяброўстве?***

— Патрэбнасць такая, вядома, была, і з кожным па-свойму. На Стральцове я, напрыклад, правяраў радок, гучанне верша, бо гэта быў чалавек высокай культуры і тонкай душы. У нас такіх мала. Караткевіч жа валодаў не толькі энцыклапедычнымі ведамі — з ім і жыць было весялей. Дарэчы, ён быў па-сапраўднаму вялікі, таму што ніколі не думаў пра тое, як стаць, куды паглядзець і што сказаць, — ён заўсёды быў натуральны… Наогул кажучы, жыццё ўвесь час зводзіла мяне не тое, што са звышлюдзьмі, але з людзьмі адметнымі, не такімі, як усе. І дзякуй лёсу за тое.

***— У новай кнізе Някляева «Знакі прыпынку» ёсць аповед пра тое, як уначы яму звоніць з Масквы Ігар Шклярэўскі і сярод іншага кажа: «Калі табе няма каму пазваніць сярод ночы, дык табе ўвогуле няма каму пазваніць». А ў вас былі такія сябры, каму вы маглі тэлефанаваць у любы час?***

— Былі. Дапусцім, быў такі паэт Сымон Блатун, ён рана памёр. Ці тыя ж самыя Міхась Стральцоў, Уладзімір Караткевіч і Уладзімір Някляеў. Раней ніхто на гадзіннік не глядзеў: у дзве гадзіны ночы, дык у дзве, у тры — дык у тры. І званіў я не толькі тут, у Беларусі, але і ў Латвію, Літву, Эстонію, Азербайджан, ва Украіну — паўсюль, дзе жылі мае сябры. Гэта зараз я не магу нікому пазваніць, таму што ўжо іншы час. Я ж не пазваню сярод ночы Някляеву…

***— Чаму?***

— Я саромлюся.

***— Прыгадваючы Генадзя Бураўкіна, вы сказалі пра вашае філалагічнае пакаленне. Вось і Сяргей Ваганаў у артыкуле памяці аднаго з вашых сяброў — паэта Валянціна Тараса — напісаў нядаўна: «…на «доўгай дарозе дадому» творцы, з'яднаныя пакутлівым пошукам адказаў на пякучыя пытанні Часу, становяцца Пакаленнем.***

***Сёння ў Беларусі шмат таленавітых, высокаадукаваных, высокаінтэлектуальных творцаў — літаратараў, філосафаў, палітолагаў…***

***Але Пакалення няма. Ёсць тусоўкі».***

***Ці пагодзіцеся з гэтым сцвярджэннем?***

— Пакаленне Васіля Быкава і Валянціна Тараса — гэта магутнае пакаленне, але яно практычна знікла. Яно ваявала і, прыйшоўшы з вайны, па-іншаму глядзела на жыццё — яно ведала цану жыццю. І калі што і рабілі ў літаратуры, дык рабілі шчыра. Хоць гэта і цяжка было, але разумееце, калі нешта забараняецца, дык наадварот хочацца рабіць насуперак. Сёння няма той сцяны, якую трэба было б прабіваць. А прабіваючы сцяну, хоць шышкі на лбе наб'еш, ды тым самым так лоб загартуеш, што арэхі можна калоць!.. (*Смяецца.*)

***— Прабачце, але не пагаджуся: зараз таксама ёсць сцяна. Яна іншая, але ж ёсць.***

— Сцяна, канешне, так ці інакш, але будзе заўсёды — пакуль будзе дзяржава, будзе і сцяна. Я маю на ўвазе, што цяпер зусім іншая сцяна, і маладзейшыя наўпрост разгубленыя і раскупленыя. Я не наракаю на іх — у такія ўжо жыццёвыя ўмовы яны пастаўлены. Сённяшнім маладым нават цяжэй, чым было нам: у наш час хоць пайка была, і некаторым лустачку дадавалі да той пайкі альбо лясачку масла…

Што ж тычыцца вашага пытання, дык такога адзінага, маналітнага пакалення, як пакаленне Быкава, ужо, безумоўна, не будзе. Але і да рэвалюцыі ж маналітных пакаленняў не было — былі асобы. І ў далейшым, відаць, будуць толькі асобы, якія будуць змагацца, сцвярджаць і загартоўваць сябе. Што б хто ні казаў, а гісторыя і культура ствараюцца менавіта асобамі, а не калгасам.

***— У звязку з гэтым: калі бачу на вашых кніжных паліцах тамы Караткевіча, часта прыгадваю адзін з яго дарчых надпісаў: «Дарагому Рыгору Барадуліну з любоўю да яго самога, добрага і шчырага чалавека, і яго светлай, сапраўды вялікай, нашай, беларускай паэзіі. Нічога, браце, зразумеюць, побач з кім жылі». Як думаеце, дзядзька Рыгор, зразумеюць?***

— Сам пра сябе… Караткевіч любіў гаварыць: «Не фігуруйце, Грышачка!» Дык вось я не фігуруюся, а яшчэ раз кажу, што мне заўсёды здавалася, што іншыя і разумнейшыя за мяне, і пішуць лепш. Не тое, што я самы дурны, але і дакладна, што не самы разумны. Хацелася б, канешне, быць разумным, але гэта ўжо колькі Бог адвёў.

***— Прабачце, калі ласка, за нетактоўнае пытанне, а ці молiцеся вы?***

— На ноч малюся. Прычым не тое, што цяпер пачаў маліцца, калі гэта стала модным, — я ўсё жыццё маліўся, мама прывучыла мяне да гэтага. І калі ад'язджаў з Вушачы, дык абавязкова станаў на калені перад абразом… І цяпер малюся і за Валю, і за Дамініку, і за Ілону само сабой.

***— Баюся паставіць вас у няёмкае становішча, а ці маліліся вы калі-небудзь за сяброў?***

— (*Раздумвае.*) За Быкава і за Караткевіча маліўся. За Валодзю таксама маліўся, калі той быў у засценках КДБ

***— Дзядзька Рыгор, прабачце, калі ласка, яшчэ за такое пытанне, але ж кожны чалавек задумваецца пра тое, што некалі яго, як вы самі напісалі, гукнуць продкі. Вы ж не можаце пазбавіцца гэтай думкі?***

— Часам думаеш, што адзінае страшнае, што можа быць, — гэта пакутаваць перад смерцю. А там ужо што будзе, тое і будзе.

***— Дык вы сумняваецеся ў тым, ці ёсць смерць, ці яе няма?***

— Смерці няма.

***— Але ў вас няма дакладнага прадчування, ведання таго, што будзе пасля?***

— Не.

***— Барыс Пастарнак пісаў, што мастацтва, гаворачы пра смерць, тым самым стварае жыццё. У вашай паэзіі апошняга дзесяцігоддзя гэтая тэма адна з найгалоўных.***

— І чым далей, тым больш, бо чым далей, тым бліжэй да смерці, якая набывае ў маім уяўленні свае рысы, хай яны і не канкрэтныя, не бачныя, але прысутнасць смерці ўжо адчуваецца.

***— Але дзякуй Богу, што, як вы зноў жа самі напісалі, вы покуль тут. І ўжо на заканчэнне: што вы пажадаеце, дзядзька Рыгор, маладзейшым за вас?***

— Маладым хочацца найперш сказаць, каб заставаліся самімі сабой. Грошы, слава — цяпер жа столькі спакус, і таму дужа цяжка выстаяць, але ўсё гэта сыдзе, і чалавек застанецца сам-насам. Таму пажадаю: жывіце сэрцам, а не розумам.



Фота Сяргея Панізніка

Рыгор Барадулін з жонкай і Уладзімірам Караткевічам

▸ АЛІМПІЯДА

# АМАЛЬ ВЯСНОВЫЯ ГУЛЬНІ




Антон МАРТЫСЕВІЧ

**Алімпіяда у Сочы стала самай паспяховай у для Беларусі — пяць залатых медалёў і адзін бронзавы — столькі яшчэ не прывозілі з Гульняў у суверэннай гісторыі нашага спорту.**




На днях у нарвежскай прэсе быў апублікаваны артыкул пра тое, як мінулым летам лідар біятлоннай зборнай Уле-Эйнар Б’ёрндален прапанаваў уключыць у склад нарвежскай сэрвіс-брыгады свайго сябра, спецыяліста па лыжных мазях, але кіраўніцтва каманды не сышлося ў фінансавым пытанні і аддала перавагу іншаму спецыялісту. Прыкладна ў гэты ж самы час беларуская зборная рассталася з французскай сэрвіс-брыгадай, якая працавала з нашай біятлоннай зборнай, і актыўна шукала замену. Так Івар Міхал Улеклеіў апынуўся ў Беларусі, і ў складаных умовах надвор’я Сочы яго сакрэты апрацоўкі лыж далі ашаламляльны вынік — лыжы беларускіх біятланістак слізгалі па цёплым снезе нашмат лягчэй, чым у біятланістак Нарвегіі. І цяпер нарвежскія журналісты задаюцца пытаннем, як біятлонная зборная магла ўпусціць такога спецыяліста і чаму ён апынуўся менавіта ў Беларусі. Ходзяць чуткі, што тут без Б’ёрндалена не абышлося.

Але справа не толькі ў мазях. Поспех беларускіх біятланістак наўрад ці быў бы магчымы без выдатнай працы нямецкага трэнера Клаўса Зіберта. Дзякуючы сваёй паспяховай кар’еры біятланіста і багатаму вопыту, ён ужо чатыры гады ўдасканальвае майстэрства лыжнага бегу і стральбы нашых дзяўчат і стаў для іх амаль што родных чалавекам.

Беларускія залатыя медалісты ў фрыстайле Ала Цупер і Антон Кушнір родам з Украіны і пачыналі займацца акрабатыкай у адным горадзе — Роўна. Але ў далейшым, у розныя гады абодва былі вымушаныя пераехаць у Беларусь, у сувязі з тым, што на радзіме не было магчымасці працягваць развівацца ў спартыўным плане. Усяму, чаго Беларусь



дабілася ў гэтым відзе спорту, мы абавязаны трэнеру Мікалаю Казеку, які вось ужо больш за дваццаць гадоў са сваімі падапечнымі дамагаецца поспехаў на міжнародных спаборніцтвах, дзякуючы свайму энтузіязму. Ці жарт: пяць Алімпіяд запар беларускія акрабаты не вяртаюцца дадому без медалёў.

Беларусь сапраўды праславілася на гэтай Алімпіядзе. Увечары панядзелка пошукавы запыт «Belarus» нават заняў пятае месца па папулярнасці на тэрыторыі ЗША. Дзіўна, як беларуская дэлегацыя ў Сочы да гэтага часу не абярнулі такі ажыятаж вакол краіны для рэкламы травеньскага чэмпіянату свету па хакеі.

На прэс-канферэнцыі пасля перамогі Антона Кушніра адзін з замежных журналістаў здзівіўся, чаму Беларусь выйграе залатыя медалі толькі ў біятлоне і фрыстайле. Але арыентаванасць на адзін-два віды спорту на зімовай Алімпіядзе — гэта «фішка» не толькі Беларусі. Так, напрыклад, адзін з лідараў медальнага заліку — Нідэрланды — 19 з 20 сваіх заваяваных медалёў здабылі ў спаборніцтвы па канькабежным спорце. Аўстрыя абодва сваіх золата ўзяла ў горных лыжах. Зборная ЗША атрымала поспех у сноўбордзе і фрыстайле. Большасць медалёў у Нарвегіі — у біятлоне і лыжных гонках.

Дар’я Домрачава ўзначаліла на гэтай алімпіядзе асабісты медальны залік. У аўторак яе ледзь не дагнаў французскі біятланіст Мартэн Фуркад, які на фінішы гонкі з масавым стартам літаральна некалькі сантыметраў прайграў свайму галоўнаму канкурэнту — нарвежцу Эмілю Свендсену. Гонка з масавым стартам пераносілася пяць разоў з-за моцнага туману, які раз-пораз спускаўся на біятлонны комплекс Лаура на працягу трох дзён. Наогул, надвор’е ў Сочы — гэта галоўная тэма абмеркаванняў апошніх дзён. Выдатная сонечнае надвор’е і лёгкі мароз у пачатку Алімпіяды павярнулася рэзкім пацяпленнем. І калі для прыбярэжнай зоны Гульняў, дзе пабудаваныя крытыя стадыёны, амаль летняя тэмпература прыносіць шмат пазітыву, то для высакагорнай Чырвонай Паляны пацяпленне і дажджы — катастрофа. Але да гонару тых, хто рыхтаваў трасы, пакуль ні адно спаборніцтва не было адменена або перанесена з-за праблем са снегам. Чатыры гады таму ў Ванкуверы, дзе арганізатары нечакана сутыкнуліся з падобнымі ўмовамі надвор’я, некаторыя спаборніцтвы апынуліся пад пагрозай зрыву і прайшлі ў выніку ў жахлівых для ўдзельнікаў умовах.

Расійскія арганізатары пакуль спраўляюцца з праблемамі, якія час ад часу ўзнікаюць падчас спаборніцтваў, чым нямала здзіўляюць шматлікіх журналістаў, некаторыя з якіх адкрыта чакалі ад Гульняў нейкага правалу. Але ўсе спаборніцтвы праходзяць на высокім узроўні, і журналісты, якія прагнуць скандалаў, пакуль абмяжоўваюцца малым. Так, у хакейным турніры нямала дасталася арбітрам, якія не залічылі зборнай Расіі пераможную шайбу з-за таго, што амерыканскі галкіпер некалькімі секундамі раней выпадкова зрушыў з месца вароты.

Дасталася і Яўгену Плюшчанку. Легендарны расійскі фігурыст за некалькі дзён ператварыўся з нацыянальнага героя ў галоўнага няўдачніка Гульняў. Яўгена наогул не павінна было быць на Алімпіядзе. З-за правалу ў мужчынскім фігурным катанні на мінулым чэмпіянаце свету, зборная Расіі магла дасылаць на гэтыя спаборніцтвы ўсяго аднаго фігурыста. Выбар стаяў паміж маладым Максімам Коўтунам і Плюшчанкам, для якога гэта Алімпіяда павінна была стаць чацвёртай у кар’еры — фенаменальнае дасягненне для гэтага віду спорту. У выніку выбар паў на больш вопытнага Плюшчанку, нягледзячы на тое, што той вярнуўся ў спорт пасля цяжкай траўмы спіны і некалькіх аперацый. На старце Гульняў Плюшчанка прыняў удзел у камандных спаборніцтвах па фігурным катанні і нямала спрыяў заваяванні для зборнай Расіі залатога медаля — другога ў кар’еры вялікага фігурыста. Але на старце індывідуальных спаборніцтваў Яўген так і не з’явіўся — хворая спіна дала сябе адчуваць у самы нязручны момант, і зараз толькі лянівы не крытыкуе Яўгена за тое, што той вырашыўся ехаць на Гульні і не даў дарогу маладому таленту. Спаборніцтвы ў выніку выйграў японец Юдзуру Ханю.

Страшна ўявіць рэакцыю расійскай прэсы і на вылет з хакейнага турніру мужчынскай зборнай Расіі. У чвэрцьфінале суперзоркі Малкін, Авечкін, Дацюк і кампанія саступілі зборнай Фінляндыі — 1:3. І зараз такому жаданаму для тых, хто будзе сачыць за хакейным турнірам Алімпіяды, фіналу Канада — Расія адбыцца не наканавана. Але гэта і не дзіўна — патэнцыял у зборнай Расіі вялікі, але калі залішняя самаўпэўненасць накладваецца на велізарны ціск звонку, які аказваецца на каманду заўзятарамі, чыноўнікамі і журналістамі, гэта хутка прыводзіць да катастрофы.

Беларускай хакейнай зборнай на Алімпіядзе ўвогуле не было — у леташняй кваліфікацыі нашы хакеісты ва ўпартай барацьбе саступілі дарогу ў Сочы зборнай Славеніі. У выніку, ад Беларусі на Алімпіяду паехала ўсяго 27 спартсменаў. Гэта самая маленькая беларуская алімпійская дэлегацыя ў гісторыі. Акрамя біятлону і фрыстайлу, нашы спартсмены прынялі ўдзел у спаборніцтваў па шорт-трэку, лыжных гонках і гарналыжным спорце, аднак ніхто і блізка не паказаў хоць колькі-небудзь прымальны вынік.

На самай справе ў нашым спорце шмат праблем, нават у самых паспяховых відах. І калі на хвалі гучнага поспеху забыцца пра іх цяпер, то мы рызыкуем гадоў праз 10 з настальгіяй казаць: «А памятаеце, які ў нас быў жаночы біятлон? І як Дар’я Домрачава брала золата на Алімпіядзе?»

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Караль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

ЗАСНАВАЛЬНІК. Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

ВЫДАВЕЦ. Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

НАДРУКАВАНА ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 229

Падпісана да друку 21.02.2014. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.